Пролетарыі ўсіх краін, злучайцеся!



# ВЕСЬЦІ

## Народнага Камісарыяту
## ◆◆◆◆ Юстыцыі ◆◆◆◆
## Беларускае С. С. Р.



ЗЬМЕСТ:



№ 1. СТУДЗЕНЬ 1927 г. 1-ы ГОД ВЫДАНЬНЯ.

Менск—1927 г.

Пролетарыі ўсіх краін, злучайцеся!

# ВЕСЬЦІ

## Народнага Камісарыяту Юстыцыі Беларускае ССР

№ 1. 18 СТУДЗЕНЯ 1927 г. 1-ы ГОД ВЫДАНЬНЯ

## Наша часопісь.

Даўно мы чакалі выхаду ў сьвет нашай часопісі. Сягоньня мы выпускаем першы нумар. Наша часопісь павінна выклікаць шырокую зацікаўленасьць ня толькі сярод адных судовых працаўнікоў. Зямельныя працаўнікі, супрацоўнікі міліцыі, працаўнікі выканкомаў павінны таксама лічыць яе сваёю. Ці патрэбна нам часопісь? Напэўна. Законадаўства БССР як саюзнае рэспублікі—самастойнае і адрозьніваецца ў немалой ступені ад законадаўства іншых братэрскіх саюзных рэспублік. Нам патрэбна дзелавая крытыка нашага законадаўства з боку судзьдзі, міліцыянэра, працаўніка выканкому, з боку кожнага працоўнага нашай рэспублікі. Не наступіў яшчэ час канчатковай стабілізацыі нашых законаў. У гады завірушнага будаўніцтва жыцьцё хутка ідзе наперад. Вельмі часта важны і патрэбны закон пасьля году—двух патрабуе грунтоўнай перапрацоўкі. За намі няма вопыту стагодзьдзяў буржуазных краін. Мы будуем нябывалую ў сьвеце першую пролетарскую дзяржаву і законы нашы мы правяраем у працэсе самай працы, пастаянна зьмяняючы і паляпшаючы наша законадаўства. Найбольш паважныя законы павінны папярэдне абмяркоўвацца шырокімі масамі працоўных. Напомню для прыкладу шырокае абмеркаваньне ў нас, у рэспубліцы, проэкту кодэксу аб шлюбе і сям'і і водна-мэліорацыйнага кодэксу. Такую законадаўчую працу ведаюць толькі першыя ў сьвеце рэспублікі Саветаў. Дзелавую крытыку нашых проэктаў законаў, існуючага законадаўства і ініцыятыву па пытаньнях законадаўства мы чакаем на старонках нашай часопісі.

Народнаму Камісарыяту Юстыцыі дадзена права тлумачэньня законаў па запытаньнях з месц. Гэта тлумачэньне павінна стаць належнасьцю ня толькі тэй установы, якая запытваецца, але і належнасьцю ўсіх тых, хто гэты закон праводзіць у жыцьцё. Аднолькавае разуменьне закону і яго ўжываньне паслужыць справе ўмацаваньня рэвалюцыйнай законнасьці і падыме праўную пісьменнасьць на мясцох. Касацыйная практыка Найвышэйшага і Акруговых Судоў мае вялікае значэньне для ўсіх працаўнікоў юстыцыі. На гэтай практыцы будуць вучыцца і расьці нашы судзьдзі на мясцох.

Цэлы шэраг дырэктыў Народнага Камісарыяту Юстыцыі, выкладзеных у кіраўнічых артыкулах, значна дапамогуць нашаму працаўніку разабрацца ў складаных пытаньнях і дадуць указаньні, як іх правільна вырашаць.



Шмат патрэб, запытаньняў, шмат прапаноў мае наш судзьдзя, сьледчы, пракурор, міліцыянэр, працаўнік выканкому. З сягоднешняга дня мы шырока раскрываем прад імі старонкі нашай часопісі. Кожны працаўнік павінен ведаць аб усіх проэктах цэнтру, аб працы Калегіі НКЮ, Найвышэйшага Суду аб найбольш важнейшых, унасімых на зацьвярджэньне СНК і ЦВК, проэктах законаў. Усе гэтыя зьвесткі ён павінен зачэрпнуць з нашай часопісі.

Падрабязная перааапрацоўка рэвізійных матар'ялаў, з указаньнем на ўсе недахопы, меры да іх выпраўленьня, усё гэта павінна знайсьці ў часопісі свой адбітак.

Агляд законадаўства Саюзу ССР і нашай рэспублікі павінен заняць віднае месца на старонках часопісі. Нарэшце, у ёй павінны зьмяшчацца поўнасьцю ўсе абежнікі Наркомюсту, Найвышэйшага Суду, усе паказаньні і дырэктывы.

Такія ў агульных рысах задачы першай у Беларусі юрыдычнай часопісі. Ці справімся мы з гэтымі задачамі? Справімся, калі нашы чытачы будуць падтрымліваць жывую сувязь са сваёй часопісьсю. Мы чакаем ад працаўнікоў з месц артыкулаў, карэспандэнцый, запытаньняў, мы чакаем дружнай з намі працы.

Мы горача вітаем нашых будучых супрацоўнікаў, мы імкнемся да цесных зносін з нашымі чытачамі. Выпускаючы першы нумар, мы бадзёра глядзім наперад.

**М. Сегаль.**

---

## Рэжым эканоміі і органы юстыцыі.

У сувязі з правядзеньнем рэжыму эканоміі на органы юстыцыі выпадае дзьве асноўных задачы: папершае, праводзіць найстрогшы рэжым эканоміі ўнутры нашага ведамства і, падругое, узмацніць барацьбу з тымі злачынствамі, якія зьяўляюцца найбольш шкоднымі з пункту гледжаньня рэжыму эканоміі.

Застановімся на першай задачы. Сярод паасобных працаўнікоў юстыцыі існуе думка, што рэжым эканоміі ва ўстановах Наркомюсту правадзіць не патрабуецца на тэй нібы падставе, што ў нас няма чаго эканоміць. Сродкі, якія адпушчаюцца як па дзяржаўным, так і па мясцовым бюджэце, абмяжованы да мінімуму і расходаваньне іх праводзіцца пад найстрогшым кантролем органаў Наркамфіну; штаты ва ўсіх установах невыстарчальны; іншых якіх-небудзь матар'яльных сродкаў — у распараджэньні Судоў і Пракуратуры ня маецца, — словам, правядзеньне дырэктывы па рэжыму эканоміі да нашага ведамства, можа насіць толькі акадэмічны характар.

З першага погляду такая думка, здаецца, нібы правільнай. Сапраўды, што-ж эканоміць? А між тым, гэта ня зусім так. Пры больш уважлівым вывучэньні праблемы рэжыму эканоміі ўнутры нашага ведамства падобны скэптыцызм ня мае пад сабой ніякой глебы, больш таго, ён зьяўляецца шкодным, адхіляючы ўвагу нашых працаўнікоў ад выкананьня дырэктыў па правядзеньню рэжыму эканоміі ва ўсіх галінах іх дзейнасьці.

У цэлым шэрагу дырэктыўных указаньняў па пытаньню аб правядзеньні рэжыму эканоміі, НКЮ зусім правільна адзначаны выпадкі, калі нашы мясцовыя органы не ўкладаюцца ў рамкі каштарысных асыгнаваньняў, робяць бескрыдытныя выдаткі, накапляюць даўгі, прызнаючы ў той час, што гэта запазычанасьць нікім сплачана ня будзе; выплачваюць зарплату супрацоўнікам, якія знахо-

дзяцца ў водпуску па хваробе, у той час, калі яны павінны былі-б атрымаць дапамогу з страхкасы; частыя, нічым неапраўданыя, нялянавыя вызавы супрацоўнікаў з месц у акруговыя цэнтры, калі вызаў іх мог-бы быць зусім заменены пісьмовай зносінай; надмернасьць у выдаткаваньні сродкаў на тэлеграмы па пытаньнях, якія ня носяць асабліва сьпешнага характару, па якіх можна было-б абыйсьціся больш таннымі спосабамі зносін і г. д.

У рамках гэтага артыкулу немажліва ахапіць усе выпадкі парушэньняў дырэктыў аб рэжыме эканоміі, але і прыведзеных досыць для таго, каб меркаваць, што нават у абмежаваных асыгнаваньнях, можна дабіцца некаторай эканоміі, зразумела, пры ўмове праяўленьня ініцыятывы з боку разьмеркаваццеляў крэдытаў.

Правядзеньне рэжыму эканоміі ня можа абмежавацца ў рамках кароткачасовай ударнай кампаніі. Гэта мерапрымества павінна быць разьлічана на шэраг бліжэйшых год.

З гэтага відаць, што мы павінны будзем паставіць сабе задачай усю нашу працу весьці пад знакам рэжыму эканоміі. Гэта акалічнасьць накладае на нас абавязак у сваёй штодзённай працы весьці падлік недахопаў і дасягненьняў, выкарыстоўваць найбольш удалыя папярэднія вопыты ў галіне эканоміі сродкаў і сіл і прыцягваць да ўдзелу ва ўсіх мерапрыемствах, выходзячы з правядзеньня рэжыму эканоміі, усю масу працаўнікоў.

Шырокае поле для выяўленьня ініцыятывы адчыняецца для нашых пэрыфэрыйных працаўнікоў у галіне рацыяналізацыі апарату. Усякая ініцыятыва ў гэтым напрамку павінна быць заахвочвана. Спрашчэньне апарату, правільнае і раўнамернае разьмеркаваньне працы сярод супрацоўнікаў, зьяўляецца неабходнай прадпасылкай барацьбы за рэжым эканоміі.

Ня менш важным фактарам у сэнсе эканоміі часу і сіл зьяўляецца плянавасьць у працы ўсіх нашых установаў.

У цяперашні час Н.К.Ю., як вядома, ужо стаў на гэты шлях. Плян працы ўсіх нашых установаў на 1926-27 г., прынятны СНК і разасланы на месцы, зьяўляецца ўпаўне рэальным; у аснову яго паложана тая матар'яльная база, якая безумоўна знаходзіцца ў нашым карыстаньні. Дасканальнае і няўхільнае выкананьне гэтага пляну ў выстарчаючай меры забясьпечвае нам эканомію сродкаў і сіл.

Плянам прадугледжаны галоўныя галіны працы нашага судовасьледчага і пракурорскага апарату. Кожны кіраўнік установы, кожны супрацоўнік наперад ведае, што ў бягучым бюджэтным годзе будзе пэўны лік рэвізій, выездаў на вёску, нарад, выязных сэсій і г. д. Строгая плянавасьць у рабоце выключае мажлівасьць раптоўных выходзячых ад мясцовых кіраўнікоў установаў, у большасьці выпадкаў нічым не выклікаемых, надзвычайных мерапрыемстваў, якія цягнуць за сабою надмерныя выдаткі і нэрвуюць супрацоўнікаў.

Выходзячы з падліку гатовых сродкаў і людзкіх сіл, НКЮ мае права вымагаць ад мясцовых установаў строгай плянавасьці ў працы.

Адным з ненармальных зьявішч унутры нашага ведамства, да напэўна ня толькі нашага, гэта некаторая недысцыплінаванасьць працаўнікоў, якія вельмі часта манкіруюць сваімі абавязкамі. Мы да гэтага часу ня выжылі яшчэ неакуратнага прыходу на службу некаторых супрацоўнікаў, адлучак па асабістых справах у час заняткаў, хаджэньне ад стала да стала, размоў, якія не адносяцца да службы і г. д. Усё гэта магло-б быць выжыта, калі-б мы да такіх зьявішч былі больш уважлівы, калі-б мы пры дапамозе мясцовых прафэсійных арганізацый здолелі прыцягнуць на барацьбу з гэтым злом усю



масу супрацоўнікаў, утварылі-б навокал гэтага пытаньня грамадзкую думку.

Несьвядомасьць супрацоўнікаў вельмі часта прыводзіць да неэканомнага, блізкага да растраты, расходваньня канцылярскіх прылад, апалу, сродкаў на асьвятленьне і г. д.

Няведаньне намі супрацоўнікаў прыводзіць да таго, што мы даручаем ім працу без падліку іх індывідуальных здольнасьцяй. Тое, што мог-бы бяз усякіх цяжкасьцяй выканаць хутка і акуратна адзін, ня можа гэтага зрабіць другі. Адсюль—прамаруджваньне, валакіта і кепская якасьць працы.

Мне могуць заўважыць, што ўсё гэта дробязі, што на такіх дробязях шмат не з'эканоміш. Такі погляд быў-бы зусім няправільным. Мы часта мием аб тых ці іншых зьявішчах несапраўднае ўяўленьне і не падлічваем іх вынікаў. А між тым, дзякуючы шэрагу такіх зьяўвішч, яны ў сваёй злучнасьці адбіваюцца на нармальнай працы апарату, робячы яго апаратам „бюракратычным“.

З усей рашучасьцю трэба павесьці барацьбу за спрашчэньне дазнаньня і сьледзтва. Гэта спрашчэньне само сабой разумеецца непавінна ісьці ў напрамку парушэньня працэсуальных норм, наадварот, толькі дасканальнае іх захаваньне можа прывесьці да пажаданых вынікаў.

З практыкі работы органаў дазнаньня і сьледчага апарату, мы ведаем, што большая палова спраў, па якіх праводзілася дазнаньне ці сьледства, прыпыняецца. Такая вялікая колькасьць спыненых спраў бязумоўна тлумачыцца няправільным іх прыняцьцем да свайго вядзеньня паказанымі органамі. Большаю часткаю па гэтых справах ня трэба было праводзіць ня толькі сьледзтва, але і дазнаньня; назіраліся выпадкі, калі міліцыя рабіла дазнаньне па справах, якія вынікалі з грамадзянскіх праваадносін і былі падсудны суду грамадзянскаму. Між тым, па ўсіх гэтых справах заводзілася справаводзтва, выклікаліся людзі, траціліся сродкі на выезд і г. д. Трата часу і сродкаў тут не паддаецца падліку.

Да гэтага часу мы мала зьвярталі ўвагі на непатрэбны і бясплодны вызыў грамадзян для апросаў па тэй ці іншай справе вельмі часта за некалькі дзесяткаў вёрст, між тым, нават пры павярховым азнаямленьні з справай, відаць, што вызыў гэты ніякіх вынікаў для справы даць ня мог, бо выклікаемы ня меў нават і аддаленых адносін да справы.

У сьпіс асоб, якія падлягаюць вызаву ў судовае пасяджэньне па справах, накіраваных у парадку 211 арт. К.П.К., заносяцца такія асобы, якія зусім ня маюць для справы ніякага значэньня. Мелі месца выпадкі, калі ў сьпісы заносіліся такія сьведкі, якія на папярэднім сьледстве паказалі, што яны па справе нічога ня ведаюць. Да жалю, у большасьці выпадкаў, падобнага роду справы праходзяць і ў Пракуратуру і ў распарадчае пасяджэньне Акруговага Суду. І ў тэй і ў другой установе ня цікавіліся роляю таго ці іншага выклікаемага ў суд сьведкі.

Апроч гэтага, трэба прыняць меры да таго, каб адклад спраў у судох па недасьледваньню ня мог мець месца.

Цяжка вычарпаць усе непатрэбныя і лішнія затраты з боку грамадзян па віне органаў юстыцыі, пералічэньне іх заняло-б шмат месца. Усё гэта дае нам падставу зьвярнуць увагу кіраўнікоў суду і пракуратуры на месцох аб неабходнасьці зараз-жа прыступіць да шэрагу мерапрыемстваў, накірованых да папярэджваньня непатрэбных затрат сродкаў і часу грамадзян, якія зьвяртаюцца ў органы юстыцыі.

Мерапрыемствы ў гэтай галіне раней за ўсё павінны быць накіраваны да падняцьця кваліфікацыі працаўнікоў органаў дазнаньня і сьледзтва і дачы ім канкрэтных указаньняў па зачэпленым пытаньні, да дакладнага вывучэньня, накіроўваемых да слуханьня ў суд спраў, як органамі пракуратуры, так і органамі суду. Распарадчае пасяджэньне суду, як апошняя інстанцыя, з якой справа ідзе да слуханьня яе ў судовым пасяджэньні, павінна завастрыць сваю ўвагу ў гэты бок.

Другая задача. У галіне барацьбы за рэжым эканоміі органы юстыцыі прызваны выконваць даволі адказную ролю. Барацьба за рэжым эканоміі павінна весьціся ня толькі ў напрамку профілактыкі, але і ў напрамку судовых прымусаў у тым выпадку, калі ўсе папярэднія сродкі вычарпаны і калі злачынства зьяўляецца ўжо фактам. У апошнім выпадку барацьба за рэжым эканоміі з боку органаў юстыцыі павінна быць завострана ў напрамку падняцьця спраў, паводле арт.арт 107, 108, 109, 113 і 128. Справы аб усякай безгаспадарчасьці, растратах павінны праходзіць з адпаведнай хуткасьцю ва ўсіх стадыях працэсу. Барацьба з усякай безгаспадарчасьцю і растратамі павінна найсьці свой адбітак у дзейнасьці органаў юстыцыі. Суды павінны вызначаць меру сацыяльнай абароны ў адпаведнасьці з сацыяльнай небясьпекай гэтага дзеяньня і з тэй шкодай, якая зроблена гэтым дзеяньнем дзяржаўным установам або грамадзкім арганізацыям.

Пры падняцьці спраў аб безгаспадарчасьці ў дысцыплінарным парадку, Пракуратура павінна прымаць актыўны ўдзел ва ўсіх стадыях прахаджэньня справы.

У заключэньне скажу некалькі слоў аб узмацненьні нагляду за дзейнасьцю гаспадарчых устаноў. Пракуратура павінна на нарадах па барацьбе з злачынствам ставіць пытаньні аб рэжыме эканоміі ў сувязі з шэрагам канкрэтных паднятых ею спраў, прыняўшы пры гэтым пад увагу месца і час учыненьня злачынства, акалічнасьці, пры якіх гэта мела месца, характарыстыку падвіноўных і г. д., у залежнасьці ад чаго і выбіраць канкрэтныя мерапрыемствы ў гэтай галіне.

Побач з гэтым працаўнікі суда і пракуратуры павінны сваімі выступленьнямі на сходах працоўных завострываць увагу грамадзкай думкі на неабходнасьць найстрогшага правядзеньня рэжыму эканоміі, як аднэй з мер, якая дапамагае сацыялістычнаму накапленьню.

**Г. Нямытых.**

---

# Да пытаньня аб законнасьці.

У зьвязку з уздымам нашае гаспадаркі ў цэлым і сялянскай у прыватнасьці, пытаньне аб законнасьці набывае першачарговае значэньне. Сваей актуальнасьцю яно ахапляе партыйную, савецкую і грамадзкую думку.

У час нашага пераходнага пэрыяду дзяржаўнае будаўніцтва можа праходзіць нармальна толькі тады, калі цьвёрда і правільна праводзіцца рэвалюцыйная законнасьць. Апошняя ў некаторай меры зьяўляецца стратэгічным крокам, неабходным ва ўмовах сацыялістычнага будаўніцтва ў Савецкім Саюзе.

Перш за ўсё трэба выявіць, якая павінна быць правільная пастаноўка пытаньня аб законнасьці. Уладзімір Ільліч са звычайнай выразнасьцю слова і думкі намеціў тры асноўныя фактары дзеля ажыцьцяўленьня законнасьці, а ўласна: адзінства законнасьці, адзінства

яе разуменьня і адзінства яе правядзеньня. „Законнасьць павінна быць адзінай,—падкрэсьлівэў ён у лісьце аб пракуратуры,—асноўным злом усяго нашага жыцьця і ўсяе нашае культурнасьці зьяўляецца папусьціцельства стара-расейскага погляду, жадаючага захаваць законнасьць у кожнай рэспубліцы і нават мясцовасьці асобна“.

Умовай законнасьці зьяўляецца адзінства яе разуменьня. Калі прыняць пад увагу сучасную сітуацыю, дык і тут мы не дасяглі выстарачаючых вынікаў. Буйнымі недахватамі ў адзінстве разуменьня законнасьці зьяўляюцца; а) анархічныя навыкі значнай часткі насельнасьці рэспублікі, якія вырасьлі на аснове дробнай гаспадаркі і б) перажыткі грамадзянскай вайны, калі ў парадку дня стаў штык, калі дэкрэты рэвалюцыйнай улады насілі характар баявога загаду, або праграмнага пытаньня, не разьлічанага на дакладнае і хуткае выкананьне, калі законнасьць бралася ў коскі і ўступала па-за законнай мэтазгоднасьці.

Тут, зразумела, адразу ўсяго не пераменіш. Тут патрэбны доўгія выхаваўчыя меры на аснове станоўчых для нас тэндэнцый ў эканоміцы. Аднак, тое-сёе можна зрабіць ужо і зараз. Трэба спыніць канкурэнцыю між мэтазгоднасьцю ў законе і мэтазгоднасьцю па-за законам. Калі раней па-за законная мэтазгоднасьць была на першым месцы, то ў данны момант яна павінна быць часткова ліквідавана, бо зараз тэмп разьвіцьця жыцьця дазваляе прадугледжваць мэтазгоднасьць у самым законе.

1) Абавязкам для ўсіх зьяўляецца суровае, дакладнае выкананьне законаў; парушэньне метазгоднасьці, устаноўленай зьместам закону, ссылкай на па-за законную мэтазгоднасьць,—зьяўляецца злачынствам.

2) Сурова прасьледаваць парушнікаў закону, хто-б яны ні былі.

3) Прывесьці законадаўства ў лёгка чытэльны выгляд, чаго дагэтуль няма, і шырока азнаёміць з ім насельніцтва, а ў першую чаргу прадстаўнікоў і агэнтаў улады.

4) Утачніць нормы грамадзкага, крымінальнага і працэсуальнага права дзеля аднастайнасьці судовых пастаноў і прысудаў па большменш аднатыповых справах—у прыватнасьці давесьці да мінімуму „аналёгію“, якая практычна хістае прававое выхаваньне судзьдзяў - насельніцтва.

5) Установіць такі парадак, пры якім у насельніцтва і правапарушнікаў зьяўлялася-б сьвядомасьць аб тым, што за правапарушэньне няўхільна і хутка пачынаецца адпаведная мера сацыяльнай абароны.

6) Узяць суровы курс на падбор асабовага складу судзьдзяў і пракурорскага нагляду, як з пункту погляду клясавага пахаджэньня, партыйнасьці, так і з пункту погляду спэц. кваліфікацыі.

7) Прывесьці ў адпаведнасьць з патрэбамі сучаснага моманту сетку і штаты судоў і пракуратуры.

Старшыня Вярхоўнага Суду БССР **А. Г. Варашылаў.**

---

# Об унификации законодательства БССР и РСФСР для присоединяемой к БССР территории.

I.

Присоединение к БССР входивших в состав РСФСР Гомельского и Речицкого уездов бывш. Гомельской губ. ставит перед законодателем сложную проблему об унификации законодательства, дей-

ствующего на территории этих уездов (законодательства РСФСР) и законодательства БССР.

Рожденные в бурные дни Октябрьской Революции, прошедшие общий путь борьбы и строительства под руководством единой коммунистической партии, РСФСР и БССР, как и остальные союзные республики, построили свое хозяйство и управление на общих в своей основе правовых нормах. Илюстрацией этого служит не только факт существования в законодательстве союзных республик целого ряда тождественных законодательных актов. В первые годы существования советских республик мы наблюдаем факты формальной рецепции законодательных актов РСФСР. Так, например, в первом же законодательном акте молодой Белорусской Республики „Манифесте Временного Революционного Рабоче-Крестьянского Правительства Белоруссии“ от 1-го января 1919 года мы читаем следующее: „устанавливается 8-ми часовой рабочий день и одновременно входят в силу все декреты Российской Социалистической Федеративной Советской Республики по обеспечению рабочего класса“. Почти через четыре года, когда на IV-й сессии Всероссийского ЦИК IX созыва были приняты важнейшие кодексы, фиксирующие хозяйственный строй советских республик,—Кодекс Законов о Труде, Земельный и Гражданский Кодексы,—представитель Украинской делегации на сессии внес принятое единогласно предложение о том, чтобы „поручить Президиуму ВЦИК обратиться к правительствам договорных советских республик с дружественным предложением о проведении кодексов, принятых IV-й сессией ВЦИК также и в их республиках“. В обоснование своего предложения представитель Украины выдвинул между прочим следующее соображение: „несомненно, что единство советского законодательства диктуется единством советских интересов, единством интересов всего пролетариата“.

Образование Союза ССР и передача республиками части своей компетенции в области законодательства Правительству Союза обеспечили некоторое единообразие законодательства союзных республик и в дальнейшем. Однако, сравнивая в настоящий момент законодательство БССР с законодательством РСФСР, мы находим значительные и весьма существенные расхождения.

В области советского строительства помимо ряда оригинальных законодательных актов по вопросам национальной политики, мы прежде всего сталкиваемся с различными в организации местных органов власти благодаря различному административному делению этих республик. Структура Окружных Исполнительных Комитетов в БССР отличается от структуры как губернских, так и уездных исполнительных комитетов в РСФСР. Точно также структура районных исполнительных комитетов БССР отличается от структуры как уездных, так и волостных исполкомов в РСФСР. Существуют отличия и в компетенции местных органов власти. Для примера укажу на законы РСФСР и БССР, регулирующие издание обязательных постановлений и порядок наложения за их нарушение административных взысканий. Различия эти касаются, как круга вопросов, по которым могут быть изданы обязательные постановления, так и размеров взысканий и порядка их наложения. Есть некоторая разница в положениях о милиции в постановлениях о сельских исполнителях и в целом ряде других актов из области административного права.

Если мы обратимся к области законодательства, с которой судебный деятель сталкивается чаще,—трудового законодательства, то и здесь мы найдем ряд существенных отличий. Так, сравнивая,

изданные в БССР и РСФСР „инструкции к временным правилам об условиях применения подсобного наемного труда в крестьянских хозяйствах“ (Собр. Зак. БССР за 1925 г. 42—351 и Собр. Узакон. РСФСР за 1925 г. 54—411), мы находим существенную разницу в том, что в то время как в РСФСР эти по существу льготные правила не распространяются на хозяйства, которые в основном ведутся с помощью наемного труда, независимо от числа рабочих, в законе БССР определенно устанавливается, что правила эти распространяются лишь на хозяйства, постоянно применяющие в качестве падсобного труда не более двух наемных рабочих с повышением для хозяйств, производящих мелиорацию, до трех наемных рабочих. Закон БССР об оплате командировок существенно отличается от применяемых в РСФСР правiл, изданных Наркомтрудом Союза. Значительно детально разработан в БССР закон о трудколлективах и их об'единениях. Членский билет профессионального союза и расчетные книжки трудящихся имеют, согласно специальному о том закону правительства БССР, юридическую силу.

Мы не имеем возможности останавливаться детально на нашем законодательстве в других областях советского строительства (Народного Образования, Социального Обеспечения и т. п.), но и в них имеется ряд существенных различий, с которыми придется иметь дело нашим законодательным органам.

## II.

Судебного работника больше всего интересует судоустройство, гражданское (в том числе земельное) и уголовное право и процесс. На них мы остановимся более подробно.

Сохраняя трехколенную судебную систему, БССР благодаря отсутствию губернского деления создала окружные суды, распространяющие свою деятельность на один или два округа. Окружные уполномоченные окружного суда имеются лишь в тех округах, где нет окружных судов, при чем на уполномоченного в отличие от законодательства РСФСР не возлагается: разассигнование кредитов по округу, производство ревизий и инструктирование судов и следователей и исполнение судебных обязанностей члена окружного суда. Первая функция отпадает в виду того, что нарсуды состоят на районном бюджете. Что же касается ревизий и выполнения обязанностей члена окрсуда, то белорусское законодательство принципиально стало на точку зрения возможного сужения столь разнообразных функций окружного уполномоченного, находя, что многочисленность обязанностей сильно отражалась бы на его работе. С другой стороны, поскольку в БССР существует достаточно широкая сеть окружных судов, нет смысла передавать судебные функции и функции ревизии и инструктирования окружным уполномоченным. Несмотря однако на такое сужение функций, окружные уполномоченные для поднятия их авторитета подлежат после назначения их Пленумом Окрсуда утверждению Окрисполкома и Наркомюста. Народный суд функционирует в каждом районе и благодаря этому более связан с органами власти района. Трудовые сессии образуются не только в окружном городе (в РСФСР—только при Губсуде), но и в других местностях по соглашению НКЮ и НК. Труда, при чем состав сессии определен в самом законе.

Прокуратура организована на тех же началах, что и в других союзных республиках, но, в отличие от РСФСР, в БССР организована так называемая участковая Прокуратура. При каждом окруж-

ном прокуроре имеются, кроме камерных помощников прокурора, участковые помощники в количестве 2—3 человек, которые, находясь в районном центре, выполняют функции прокурорского надзора в отношении действующих на подведомственной им территории органов власти, в частности, вносят в районный исполнительный комитет или через окружного прокурора в окружный исполнительный комитет протесты на постановления РИК'ов и других местных органов власти. Существование участковой Прокуратуры несомненно помогает укреплению революционной законности на местах.

Следственный аппарат состоит не при суде, а при Прокуратуре, и действует под наблюдением последней. Назначение следователей производится в централизованном порядке—Наркомом Юстиции па представлению окружных прокуроров.

Нотариат имеет те же функции, что и в других союзных республиках, но в отличие от законодательства РСФСР больше связан с Окрисполкомами и Наркомюстом, чем Окрсудом. Так, число нотариальных контор и их местонахождение определяется Окрисполкомами по соглашению с Н. К. Ю.; сметы их утверждаются не Пленумом Окрсудов, а НКЮ; нотариусы назначаются не председателями окружных судов, а окрисполкомами. Всю работу по руководству нотариатом НКЮ проводит через нотариальный П/отдел, действующий при Отделе Судоустройства; при Окрсудах же нотариальных отделений не существует.

Коллегии защитников существуют при Окрсудах, но помимо этого действует при НКЮ Всебелорусское об'единение защитников. Прием в коллегию производится под контролем Окрисполкомов, при чем в праве отвода принятого в коллегию защитника Окрисполком сроком не ограничен. Разрешение юрисконсультам государственных учреждений и предприятий по вступлению в число членов коллегии защитников дается Наркомюстом, а не Окрсудом. Жалобы на постановления Президиума коллегии защитников по дисциплинарным делам подаются в окрисполком, а не в окрсуды.

Наконец, об'единяющий все перечисленные выше судебные органы Верховный Суд имеет те же права в отношении руководства судебной практикой и ревизии судебных органов и всех остальных функций, что и Верхсуд РСФСР. Разница лишь в том, что Верховному Суду (как и окружным судам) не предоставлено право надзора за деятельностью Земельной и Арбитражной Комиссий и кроме того несколько упрощена его структура.

Подводя итоги, мы можем отметить следующие характерные особенности в нашей судебной системе:

1) В системе органов суда и следствия достигнута большая четкость и определенность, как в работе каждого органа в отдельности, так и в отношениях этих органов между собой, при чем судебные органы освобождены от ряда обязанностей, не имеющих отношения к их судебной работе;

2) Органы юстиции имеют в своей работе больший сравнительно с РСФСР контакт с местными органами власти;

3) Вместе с тем все органы юстиции больше связаны с Народным Комиссариатом Юстиции, который благодаря этому легче и быстрее, без бюрократических проволочек, улавливает достоинства и недостатки нашего законадательства, нашей судебной политики и практики. Все эти моменты конечно сильно отражаются на нашем процессе, как уголовном, так и гражданском.

В то время, как по УПК РСФСР предварительное следствие направляется следователем в суд с уведомлением о том прокурора,



по УПК БССР предварительное следствие направляется в суд через Прокурора (ст. ст. 133, 198, 200, 203, 226 и 235 УПК БССР) *).

В отношении подсудности следует отметить, что дела по 1-й части 149 ст. подсудны по законодательству БССР Народному Суду в то время, как в РСФСР эти дела подсудны губернским Судам. Важным отличием является и то, что в БССР допускается предварительное заключение в случае, если преступное деяние, приписываемое обвиняемому, влечет по УК лишение свободы на срок не ниже 6 месяцев, в то время, как в РСФСР этот срок повышен до одного года.

В области гражданского процесса большое значение имеет различие в законодательстве БССР и РСФСР по вопросу об истребовании и рассмотрении дел в порядке надзора. Согласно закону БССР право истребования дела, решение по которому вступило в законную силу, принадлежит только органу прокурорского надзора, причем определенно указывается, что окружные прокуроры при необходимости приостановить исполнение решения ходатайствуют об этом перед Прокурором Республики. Направление этих дел в БССР также несколько иное, чем в РСФСР. В РСФСР дела, решенные Народным Судом, вносятся в Пленум Губсуда, а дела решенные Губернским Судом вносятся в Гражданскую Коллегию Верховного Суда; в БССР же все эти дела передаются на рассмотрение в Гражданскую кассационную коллегию Верховного Суда. В отличие от ГПК РСФСР, в БССР из числа дел особого производства исключены дела о расторжении брака, так как согласно постановлениям ЦИК и СНК от 29 мая 1925 г. (Собр. Зак. БССР за 1925 г. № 29, ст. ст. 273 и 274) эти дела вовсе из'яты из ведения народных судов и для них установлен особый порядок разбирательства в органах ЗАГС. Этот-же раздел о делах особого производства дополнен новой главой „о порядке производства дел о признании лица безвестно отсутствующим и безвестно отсутствующего пропавшим“ (умершим). Укажем еще на то, что в отличие от законодательства РСФСР, БССР не допускает немедленного исполнения решений против государственных учреждений и предприятий по искам, основанным на векселях, а также не допускает выдачу судебных приказов по взысканиям, основанным на документах устанавливающих просрочку платежей по индивидуальному товарному кредиту, полученному в потребительских обществах.

Из области гражданского права укажем на следующие важнейшие отличия: ст. 101 ГК предоставляет Государственному Банку льготы по взысканиям с заложенного имущества наравне с органами Наркомфина по взысканию налогов и сборов. Ст. 137-я значительно суживает по сравнению со ст. 137 ГК РСФСР круг сделок, освобождаемых от обязательного нотариального удостоверения. Ст. 12-я ГК БССР больше детализирует права лица, признанного пропавшим (умершим) на оставшееся после него имущество при его возвращении. Значительно отличается законодательство БССР в отношении права административного выселения. Не останавливаясь подробно на этом вопросе, укажем лишь, что перечень помещений, из которых в БССР допускается выселение в общем уже перечне, установленного

*) Существует значительная разница в отношении перечня преступлений по которым требуется обязательное предварительное следствие, но ввиду того, что в СНК находится на рассмотрении проект новой редакции ст. 103, которая войдет в силу на территории всей БССР, мы не считаем нужным останавливаться на этом вопросе.

в РСФСР, однако, предусмотрено право административного выселения лиц, занявших без разрешения Комхоза помещение, входящее в коммунальный жилищный фонд.

Чрезвычайно существенные отличия мы находим в земельном законодательстве БССР. Благодаря особенностям землевладения и землепользования в Белоруссии Земельный Кодекс БССР исключает из форм землепользования общинный порядок землепользования. В связи с этим несколько сужены права земельного общества, в частности земельное общество не имеет права распоряжаться землей местного запасного фонда. В Земельный Кодекс БССР введена статья об очередности наделения землей граждан, желающих получить ее в трудовое пользование, при чем в отношении получения земли трудовое еврейское население уравнено в правах с безземельным и малоземельным коренным крестьянским населением. Из других отличий отметим еще установление нормы землепользования для трудовых хозяйств, исключение применения местных обычаев.

Уголовные Кодексы РСФСР и БССР, имея в своей основе общий текст У. К. РСФСР 1923 год, все же сильно отличается друг от друга. Мы отметим наиболее существенные отличия, ибо эти отличия имеют лишь кратковременное значение ввиду заканчивающейся переработки УК БССР. Статьи, касающиеся минимального срока лишения свободы, вопроса о высылке (удаление), шпионажа и порядка лишения ордена Красного Знамени согласованы в Кодексе БССР с „Основными началами Уголовного Законодательства Союза ССР". Ряд преступлений, отмеченных в УК БССР, отсутствует в УК РСФСР, например: побег из места заключения путем повреждения затворов, стен и т. п., подделка марок, билетов ж.-д. и водного транспорта и других знаков государственной оплаты без предварительного соглашения и не в виде промысла; взимание квартирной платы сверх установленной нормы со служащих (негосударственных) и с лиц, приравненных к рабочим и служащим. С другой стороны УК БССР не содержит ряда преступлений, указанных в УК РСФСР, как продажа, покупка квартир в муниципализированных и национализированных домах, изготовление, хранение и сбыт одурманивающих веществ, нарушение правил о радио и ряд других преступлений, которые не имеют места в БССР, например, ст. ст. 196-а, 196-б, 218-а, 99-а УК РСФСР. Существует разница и в санкциях ряда статей, как ст. ст. 79, 99, 140-г, 176 и др. Наконец преступления по ст. ст. 124, 226 и 226-а преследуются по УК БССР в порядке административном, тогда как в РСФСР предусмотрен судебный порядок рассмотрения этих дел.

## III.

Краткий, далеко не исчерпывающий сравнительный обзор законодательства БССР и РСФСР убеждает нас в сложности проблемы унификации законодательства, действующего на территории укрупненной БССР. В первом же декрете Президиума ЦИК БССР о присоединении к БССР быв. Гомельского и Речицкого уездов затрагивается эта проблема. Ст. 6-я упомянутого постановления говорит, что „на территории присоединяемых к БССР Гомельского и Речицкого уездов впредь до окончательного практического оформления включения их в состав Белорусской ССР, сохраняют силу законодательные акты РСФСР, действующие в этих уездах к началу передачи". Однако эта статья, устанавливая принцип постепенной замены законодатель-

ства РСФСР с законами БССР, возбуждает ряд вопросов: каков последиий срок действия законов РСФСР на территории этих уездов, как установить момент, после которого новые законодательные меры РСФСР на присоединяемую территорию не распространяются и, наконец, каков порядок замены законодательных актов РСФСР законодательными актами БССР. На все эти вопросы дает ответ, утвержденный по представлению ЦИК'ом и СНК 30-го декабря 1926 г. декрет „о силе законов РСФСР и БССР для территорий бывших Гомельского и Речицкого уездов". Введеный в действие по телеграфу этот декрет в первой-же статье устанавливает определенно и ясно, что на территории присоединяемых к БССР уездов сохраняют свое действие все законодательные акты РСФСР, уже действовавшие на этой территории к 1-му января 1927 года. В частности, этим законом разрешен вопрос об уголовном и брачном Кодексах РСФСР в новой редакции. Эти Кодексы, как вводимые в действие на территории РСФСР с 1-го января 1927 года, не имеют силы на присоединенной к БССР территории. С 1-го января 1927 г. приобретают силу законы БССР, утвержденные правительством БССР после 31 декабря 1926 года. Те же законы БССР, которые утверждены правительством до 31-го декабря 1926 года, т. е. до момента передачи верховной власти над этими территориями правительству БССР, но вступившие в действие на территории БССР после 31-го декабря 1926 года (благодаря опубликованию их в 1927-м году или по другим причинам), приобретают силу на присоединенной территории на основании особого в каждом отдельном случае постановления законодательных органов БССР. Придерживаясь установленного в вышеизложенной ст. 6-й постановления Президиума ЦИК'а от 8-го декабря 1926 года принципа о постепенном проведении на присоединяемой территории законов БССР, излагаемый нами закон, развивая этот принцип, устанавливает, что действие законов РСФСР, сохраняющих силу на присоединяемой территории, может быть отменено двумя путями: либо вступлением в силу закона БССР, действующего с 1-го января 1927 года, либо изданием специального законодательного акта, отменяющего действие на этой тэрритории закона РСФСР и вводящего в действие на этой территории закона БССР, изданного ранее 1-го января 1927 г.

Однако еще до издания вышеизложенного закона Президиум ЦИК и СНК БССР постановлением от 8-го декабря 1926 г. „об организации управления на территории присоединяемых уездов" ввели в действие на этой территории, изданные законодательными органами БССР в 1925 и 1926 г. г. Положения об окружных исполнительных комитетах и районных исполнительных комитетах, указав в п. п. „а", „б" этого закона, что Гомельский и Речицкий уезды преобразовываются в округа „с присвоением нынешним Гомельскому и Речицкому уисполкомам прав окрисполкомов" и в п. „г",— что все волостные исполкомы бывших Гомельского и Речицкого уездов преобразовываются в районные Исполкомы Гомельского и Речицкого округов БССР. Возбуждает сомчение вопрос о действии на присоединяемой территории утвержденных законодательными органами БССР положений о городских, местечковых и сельских советах. Казалось бы, что наряду с введением в действие на этой территории Положения об окружных исполкомах должны были одновремено вступить в действие и положения о советах, а между тем, в цитируемом законе говорится, что советы „продолжают работать на прежних основаниях без всяких изменений". Существенным является также вопрос о действии на этой территории законов,

непосредственно связанных с положением об окружных и районных исполкомах: Положения о порядке издания обязательных постановлений (Сбор. Зак. БССР за 1925 год. № 31, ст. 288), закона о кредитных операциях окрисполкомов (Сбор. Зак. за 1925 год № 31, ст. 287) и некоторых других. Несомненно этот вопрос подлежит разрешению в долженствующих быть изданными законодательных актах БССР.

Вслед за законом от 30-го декабря 1926 года был утвержден 3-го января 1927 года закон, касающийся отмены действия на территории присоединяемых округов законов РСФСР, которым правительство БССР делает первый шаг по пути унификации законодательства. Этим законом вводится в действие с 5-го января 1927 года на присоединяемой территории Положение о Судоустройстве БССР и отменяется с этого же числа действие Положения о судоустройстве РСФСР, при чем все органы юстиции реорганизуются на основе Положения о судоустройстве БССР.

Таким образом в настоящий момент органы юстиции присоединяемой территории, реорганизованные на основании Положения о судоустройстве БССР, пользуются в своей работе Кодексами РСФСР, действовавшими на их территории до 31-го декабря 1926 г.

* * *

Применение административными и судебными органами, хозяйственными предприятиями и всеми юридическими и физическими лицами, находящимися на присоединяемой территории законов, изданных правительствами двух республик (БССР и РСФСР) несомненно должно отражаться на административной деятельности и хозяйственной жизни этой территории. Оно же будет некоторым тормазом дальнейшему развитию революционной законности на этой территории. Дело правительства БССР возможно быстрее унифицировать законодательство. Дело Народного Комиссариата Юстиции проявить свою инициативу в этом направлении.

**Гавзе.**

---

# Аб замацаваньні зямлі ў працоўнае карыстаньне.

(Да тлумачэньня арт. 124 Зямельнага Кодэксу).

Адным з асноўных артыкулаў Зямельнага Кодэксу БССР зьяўляецца арт. 124, у якім гаворыцца аб замацаваньні зямлі ў працоўнае карыстаньне.

Правільнае вырашэньне пытаньня аб тым, якія іменна землі і за кім замацованы ў пастаяннае карыстаньне, мае вялікае значэньне, як для ўтварэньня сталасьці землякарыстаньня наогул, так і ў пасобку для земляўпарадкаваньня пры якім кожны ўдзельнік яго павінен атрымоўваць упарадкаваную зямлю адпаведна сваіх праў на яе.

Між тым зямельныя працаўнікі да гэтага часу не аднолькава разумеюць артыкул 124 Зям. Код., што прыводзіць да разнабойнасьці ў працы.

Лічачы, што быўшая непрацоўная зямля замацована за сялянамі толькі ў тым выпадку, калі яны маюць на яе дакумэнты, некаторыя з зямельных органаў і зараз лічаць запасным фондам быўшую зямлю памешчыкаў, якая ня была законамерна разьмеркавана сярод

насяленьня. Такая зямля, калі-б яна не паступіла ў фактычнае карыстаньне сялян, іншы раз забіраецца ад іх для ўтварэньня на ёй пасёлкаў і калектываў з другіх грамадзян, або робіцца пераразьмеркаваньне гэтай зямлі паміж працоўнымі гаспадаркамі для падраўнаньня іх да мінімальнай нормы.

Між тым далека не заўсёды патрэбна, каб у землякарыстацеля знаходзіўся дакумэнт на быўшую зямлю памешчыка, каб перастаць лічыць яе запасным фондам зямельных органаў.

Гэта выцякае са зьместу тых крыніц, на якіх грунтуецца арт. 124 Зямельнага Кодэксу.

Першапачатковай крыніцай зямельнага права БССР, наогул, і арт. 124 Зямельнага Кодэксу, у паасобку, зьяўляюцца тэзісы Народнага Камісарыяту Земляробства па аграрным пытаньні, якія былі прыняты II-м Усебеларускім Зьездам Саветаў 17-га сьнежня 1920 году.

У гэтых тэзісах зьезд прызнаў, што вайна і акупацыя пазбавілі сялян тых зямельных здабыцьцяў, якія зьявіліся вынікамі перамогі над панаваньнем памешчыкаў і капіталістых і перашкодзілі далейшым мерапрыемствам Савецкай улады па вырашэньні аграрнага пытаньня.

Лічачы, што вырашэньне яго ў Беларусі павінна ісьці ў напрамку ўрэгуляваньня зямельных адносін і задаваленьня патрэб шырокіх колаў працоўнага сялянства правільным разьмеркаваньнем быўшай зямлі памешчыкаў, зьезд пастанавіў усю сялянскую і ўсю наогул, працоўную зямлю пакінуць ранейшым уладаром на правох землякарыстаньня будынкамі, інвэнтаром і іншай маемасьцю; працоўнай гаспадаркай лічыць тую, якая вядзецца самім землякарыстальнікам без ўжываньня чужой працы; з быўшых непрацоўных земель ня больш 25% адвесьці пад савецкія гаспадаркі, а рэшту зямлі разьмеркаваць арганізацыйным парадкам паводле земляўпарадкаваньня сярод грамадзян, якія маюць патрэбу ў зямлі, не дапускаючы ніякіх зьмен у землякарыстаньні бяз ведама і дазволу зямельных органаў; куплю зямлі ў пэрыяд польскай акупацы скасаваць.

Такім чынам 2-гі Ўсебеларускі Зьезд Саветаў рэзалюцыяй сваёй па аграрным пытаньні надаў права працоўнага землякарыстаньня ўсім фактычна існаваўшым к часу прыняцьця паказанай рэзалюцыі (17 га сьнежня 1920 г.) працоўным гаспадаркам незалежна ад таго, ці карысталіся яны надзельнаю, арэнднаю, купленаю да польскай акупацыі, або нават захопленаю зямлёю, і пры тым не патрабаваў ад іх на гэту зямлю ніякіх дакумэнтаў. Што-ж датычыць зямлі быўшых памешчыкаў, якая не знаходзілася да гэтага часу ў працоўным карыстаньні сялян, то яна пакідалася пад загадам зямельных органаў, якія павінны былі частку яе (культурныя маёнткі, скарыстаць пад савецкія гаспадаркі, а рэшту зямлі разьмеркаваць аранізацыйным парадкам сярод маючых патрэбу ў зямлі грамадзян. Тут ужо патрэбны дакумэнт для таго, каб запасная земля была замацована ў пастаяннае працоўнае карыстаньне.

У далейшым гэтыя асноўныя палажэньні разьвіваліся дэкрэтамі Ўраду БССР і распараджэньнямі Народнага Камісарыяту Земляробства. У паасобку, абежнікам НКЗ за 27-га красавіка 1921 году, № 3, заборонена было ўносіць якія нібудзь зьмены ў існуючае працоўнае карыстаньне, мінуючы судовы і земляўпарадчы спосабы, прычым і пры земляўпарадкаваньні нормы зямельнага забесьпячэньня не павінны былі зьмяняцца.

Парадак разьмеркаваньня быўшай непрацоўнай зямлі быў уста-

ноўлен інструкцыяй за 28 студзеня 1921 году. Разьмеркаваньнў зямлі даручана было праводзіць валасному зямельнаму аддзелу е адміністрацыйным парадку, але з прычыны дапушчаных імі няправільнасьцяй гэта права абежнікам за 11-га жніўня 1921 году № 1583 ад яго адабрана і прапанована павятовым зямельным аддзелам надалей праводзіць разьмеркаваньне зямлі толькі паводле земляўпарадкаваньня. Зробленае валаснымі зямельнымі аддзеламі разьмеркаваньне зямлі падлягала праверцы (урэгуляаваньню) на падставе абежніка Наркомземляробства за 18-га сьнежаня 1921 году № 2833 і рэзалюцыі 2-га Ўсебеларускага Зьезду Саветаў. Патрэба гэтага ўрэгуляаваньня надалей, да яго заканчэньня, пацьверджана была і арт. 3 пастановы Прэзыдыуму ЦВК за 19-га сакавіка 1923 году аб увядзеньні ў жыцьцё Зямельнага Кодэксу.

Устанаўленьне цьвёрдасьці землякарыстаньня (замацаваньне яго) для падняцьця сельскай гаспадаркі дэкрэтавана было перш за ўсё пастановай ЦВК за 22-га красавіка 1922 году (С. У. № 4 1922 г. арт. 51). На падставе гэтай пастановы быўшыя землі, якія ў выніку ўрэгуляваньня разьмеркаваньня паступілі ў працоўнае карыстаньне ў межах устаноўленых норм, замацованы ў пастаяннае працоўнае карыстаньне; пры земляўпарадкаваньні магчыма зьмена межаў (але не разьмераў) гэтага землякарыстаньня.

Усе пералічаныя вышэй законы і распараджэньні кадыфікаваны ў арт. 31 асноўнага закону аб працоўным землякарыстаньні (С. У. № 9, 1922 г., арт. 127); На гэтым артыкуле, у сваю чаргу, заснован арт. 124 Зямельнага Кодэксу. У іх гаворыцца аб замацаваньні зямлі ў пастаяннае працоўнае карыстаньне.

Тут трэба спыніцца на вытлумачэньні, у чым заключаецца розьніца ў праўным палажэньні зямлі „замацованай“ і зямлі працоўнага карыстаньня наогул.

Права працоўнага землякарыстаньня ўстаноўлена было ў нас яшчэ рэзалюцыяй 2-га Ўсебеларускага Зьезду Саветаў, потым яно адзначана было асноўным законам аб працоўным землякарыстаньні, і канчаткова яго сутнасьць выяўлена ў Зямельным Кодэксе.

Права гэта зьяўляецца бестэрміновым, але ўмоўным. Нацыяналізаваная дзяржавай зямля даецца працоўным землякарыстальнікам для бестэрміновага, але рацыянальнага вядзеньня на ёй сельскай гаспадаркі сваёй працай.

Зямля можа быць адабрана ад працоўнага землякарыстальніка толькі тады, калі ён парушае пастаўленыя яму дзяржавай умовы карыстаньня, калі зямля неабходна для дзяржаўных і грамадзкіх патрэб і калі землякарыстаньне, не ўпарадкаванае пры Савецкай уладзе, перавышае ўстанаўленую Наркамземам мясцовую норму. У апошнім выпадку робіцца так званая абрэзка гаспадаркі. Замацаваная-ж у пастаяннае працоўнае карыстаньне зямля не падлягае абрэзцы. Абрэзка не ўжываецца таксама да гаспадарак, якія-б ня былі іх рязьмеры, калі гаспадаркі гэтыя атрымалі зямлю паводле савецкага земляўпарадкаваньня. Аб замацаваньні зямлі першы раз было памянута ў 31 арт. асноўнага закону аб працоўным землякарыстаньні. Артыкул гэты тычыцца замацаваньня зямлі за зямельнымі грамадамі і за паасобнымі працоўнымі землякарыстальнікамі. За зямельнай грамадою замацована ўся тая зямля, якая знаходзілася ў яе карыстаньні да часу выданьня асноўнага закону (7-га верасьня 1922 году). Дзеля гэтага, на падставе арт. 14 паказанага закону вучасткі паасобных гаспадарак, якія робяцца безгаспадарчымі ў межах зямельнае грамады хоць і паступаюць у распараджэньне зямельных органаў,

але зямельныя органы павінны даць іх грамадзянам тае самае грамады, якія маюць патрэбу ў зямлі.

За паасобнымі працоўнымі гаспадаркамі замацоўваецца зямля толькі „з дню выдачы ім дакумэнтаў“. Выраз гэты будзе зразумелым, калі мець на ўвазе, што асноўны закон устанаўляе норму для працоўнага землякарыстаньня (арт. 6 і 7) і што быўшая непрацоўная зямля на падставе ўсіх ранейшых распараджэньняў падлягала разьмеркаваньню сярод грамадзян, маючых патрэбу ў ёй „арганізацыйным парадкам паводле земляўпарадкаваньня“. Выдача дакумэнтаў патрэбна была тады для замацаваньня працоўнай зямлі, бо, хоць у законе і гаварылася аб норме працоўнага землякарыстаньня, але параённыя нормы яшчэ ня былі выпрацаваны і разьмеры іх у кожным паасобным выпадку вызначаліся судовым рашэньнем зямельнай камісіі пры абрэзцы гаспадарак. Толькі ў 1924 годзе вызначаны былі нормы для абрэзкі (максімальная) і надзяленьня (мінімальная) абежнікам Наркамзему за № 20 і устаноўлен земляўпарадчы спосаб абрэзкі.

У той час, як існаваў закон аб нормах, нельга было замацаваць фактычнае землякарыстаньне паасобных гаспадарак, не праверыўшы яго раней праз зямельную рэгістрацыю, абрэзку або земляўпарадкаваньне, у выніку чаго маглі быць выданы дакумэнты на землякарыстаньне, якія замацоўвалі яго разьмеры.

Праўнае палажэньне зямлі, купленай у пэрыяд польскай акупацыі, вызначаецца абежнікам Наркамзему за 14 лістапада 1921 году № 2374. Абежнік гэты прапануе купленую зямлю лічыць запасным фондам, але надзяляць ёю па норме раней усяго незабясьпечаных зямлёй пакупшчыкаў.

Такім чынам усе прыведзеныя вышэй распараджэньні па старой меншчыне (непашыранай БССР) даюць падставы тлумачыць арт. 124 Зямельнага Кодэксу наступным чынам:

а) Землі, якія знаходзіліся ў працоўным карыстаньні грамадзян да часу прыняцьця 2-гім Усебеларускім Зьездам Саветаў рэзалюцыі па аграрным пытаньні (17-га сьнежня 1920 г.) і якія застаюцца ў іх карыстаньні да сучаснага моманту, зьяўляюцца землямі працоўнага карыстаньня незалежна ад тых падстаў, па якіх яны паступілі ў іх карыстаньне (надзяленьне, купля, арэнда, захоп і інш.). Паказаныя землі абразаюцца на агульнай умове. Выключэньне складаюць землі, якія былі куплены ў пэрыяд польскай акупацыі: яны ўваходзяць у склад запаснага фонду, але падлягаюць разьмеркаваньню па мінімальнай норме ў першую чаргу сярод незабясьпечаных зямлёю пакупшчыкаў.

б) Усе землі, якія знаходзяцца ў карыстаньні зямельных грамад да дня выданьня асноўнага закону аб працоўным землякарыстаньні (7 сьнежня 1922 г.), замацованы ў пастаяннае працоўнае карыстаньне.

в) Землі, паступіўшыя ў працоўнае карыстаньне абасобленных двароў са складу запаснага фонду паводле савецкага земляўпарадкаваньня замацоўваюцца ў іх пастаяннае працоўнае карыстаньне незалежна ад яго разьмераў. Землі гэтыя не падлягаюць абрэзцы, а паўторнае іх земляўпарадкаваньне ў выпадку неабходнасьці можа рабіцца толькі па фактычнаму землякарыстаньню.

г) Землі запаснага фонду, фактычна прысвоеныя насельніцтвам без дазволу зямельных органаў пасьля 17-га сьнежня 1920 г., і цяпер лічацца у складзе паказаннага фонду да разьмеркаваньня яго сярод грамадзян, маючых патрэбу ў зямлі, паводле земляўпарадкаваньня, прычым малазямельныя гаспадаркі, якія карыстаюцца гэтымі землямі, маюць пераважнае права на надзяленьне іх па ўстаноўленай норме.

**А. Вішнеўскі.**

# Аб адміністрацыйным пакараньні.

(У парадку абгаварэньня).

Існуючае ў БССР палажэньне аб парадку выданьня абавязковых пастаноў і аб адміністрацыйным пакараньні за іх парушэньне (З. З. 1925 г. № 31, арт. 288), пры ўжываньні яго выклікала шмат спрэчных пытаньняў, а таксама няздолела ахапіць усе правапарушэньні і своячасна адказаць парушыцелям адпаведнай карай.

Не датыкаючыся ў сучасны момант пытаньняў аб выданьні абавязковых пастаноў, аб чым будзе сказана ў другі раз, я хачу тут спыніцца толькі на самым адміністрацыйным пакараньні. Вось якія пытаньні выклікала ў адносінах да яго існуючае палажэньне:

Паводле літ. „в“ арт. 11-га „справа аб правапарушэньні, якое караецца адміністрацыйным парадкам, можа падымацца не пазьней як за 2 месяцы ад дня парушэньня і належыць разгляду на працягу месяца ад часу яе падняцьця“—і вось гэта выклікала пытаньні: ці пазбаўляецца правапарушыцель у выпадку пропуску 2-х месячнага тэрміну зусім ад адказнасьці, ці ён нясе адказнасьць у іншым парадку,—напрыклад, у судовым, як у УССР—а калі пазбаўляецца, то ці пазбаўляецца ён ад адказнасьці і тады, калі на працягу месячнага тэрміну не адбудзецца пастанова аб пакараньні, бо выраз—„справа належыць разгляду“—зьяўляецца нібы дырэктывай для адпаведных органаў і не датычыць правапарушыцеля. У паасобку паўстала пытаньне адносна лесапарубшчыкаў: ці датычаць да іх гэтыя тэрміны, пакольні яны прыцягваюцца да адказнасьці паводле арт. 99 Крымінальнага Кодэксу, а таксама, у якім парадку належыць спаганяць з іх карнявы кошт—у адміністрацыйным, або ў судовым, і ці пазбаўляюцца яны ад уплаты карнявога кошту ў выпадку пропуску паказаных вышэй тэрмінаў, а калі не пазбаўляюцца, то ў якім парадку, і ў які тэрмін у гэтых выпадках спаганяецца карнявы кошт?

Ці мае права РВК пераглядзець сваю пастанову і зьнізіць разьмер штрафу, або зусім звольніць ад кары; ці мае РВК права пазбавіць правапарушыцеля ад пакараньня з прычыны беднага яго становішча; ці мае права акруговы выканаўчы камітэт, пры разглядзе справы па скарзе правапарушыцеля, павялічыць разьмеры кары?

Калі парушыцель ужо ўнёс частку штрафу, а рэшты часткі спагнаць нельга, з прычыны беднасьці правапарушыцеля, то ці магчыма прызначыць яму прымусовыя работы—ці ня будзе тут двух пакараньняў?

Зьвесткі ад мясцовых органаў паказваюць, што часта немагчыма разглядзець спраў у месячны тэрмін з прычыны неабходнасьці праверыць пратаколы, сабраць тыя або іншыя матар'ялы, а таксама з прычыны вялікай колькасьці спраў. Так па аднэй з акруг з першага студзеня па першае верасьня мінулага году раённымі выканаўчымі камітэтамі і гарсаветамі атрымана да разгляду больш 4900 адміністрацыйных спраў і засталося не разгледжаных ад 1925 году —772, што ў сярэднім на адну адміністрацыйную ўстанову складае па 90 спраў у месяц, пры гэтым большая частка спраў датычыць злачынстваў, прадугледжаных Крымінальным Кодэксам. Акруговы выканаўчы камітэт за той самы час атрымаў блізка 440 скарг і засталося неразгледжаных ад мінулага году 190 спраў, што выпадае на кожнае пасяджэньне блізка 20 адных спраў па скаргах на адмі-

ністрацыйнае пакараньне. Трэба адзначыць, што палажэньне аб гарадзкіх саветах зусім не зьмяшчае ніякіх правіл аб парадку накладаньня прэзыдыумам гарсаветаў адміністрацыйнага пакараньня.

Гэтыя і шмат іншых пытаньняў выклікалі неабходнасьць пераглядзець існуючае палажэньне аб парадку выданьня абавязковых пастаноў і накладаньня адміністрацыйнага пакараньня за іх парушэньне, і адпаведнымі органамі распрацоўваецца новы проэкт.

Гэты проэкт павінен ня толькі ўзяць пад увагу ўсе пытаньні, якія паўставалі на практыцы, але неабходна, каб асноўныя палажэньні яго былі пастаўлены на шырокае абгаварэньне мясцовых працаўнікоў,—вось чаму я хачу ў гэтым артыкуле, ня спыняючыся на ўсіх вышэйадзначаных пытаньнях, дакрануцца некаторых асноўных палажэньняў, якія на мой погляд трэба правесьці ў новым проэкце ў частцы, як гаварылася вышэй, адміністрацыйнага пакараньня.

Папершае, гэта тое, што існуючае палажэньне прадугледжвае адміністрацыйнае пакараньне ня толькі за парушэньне абавязковых пастаноў, якія выдаюцца мясцовымі органамі, але таксама і адміністрацыйнае пакараньне за злачынствы, якія прадугледжаны Крымінальным Кодэксам; і вось гэтыя злачынствы, пераважна лесапарубкі, і выклікалі найбольш ўсяго спрэчных пытаньняў і далі найбольшы лік спраў.

Але трэба ўзяць пад увагу, што абавязковыя пастановы маюць паасобны характар: гэта, калі можна так сказаць, крымінальныя пастановы мясцовых органаў, і яны адрозьніваюцца ад Крымінальнага Кодэксу і іншых пастаноў, за парушэньне якіх таксама прызначаецца адміністрацыйная кара: яны датычаць больш простых пытаньняў, не патрабуюць складаных довадаў парушэньня і складаных праверак, і павінны быць і складзены так, каб парушэньне выяўлялася проста. У большасьці выпадкаў парушыцель абавязковай пастановы і не адмаўляецца ад факту парушэньня, а калі і падае скаргу, то ён ці дадае довады, якія апраўдваюць яго, ці просіць аб зьніжэньні кары. Абавязковыя пастановы па самай істоце павінны адпавядаць гэтым умовам. Іншыя-ж злачынствы, як лесапарубкі, самагон носяць іншы характар, і патрабуюць больш складаных довадаў; напрыклад, лесапарубшчыкі выяўляюцца ў большасьці выпадкаў не на месцы парубкі, а па сьлядох. Па зьвестках з месц, самагоншчыкі зварочваюць віну на бяднейшых сялян, якія прымаюць віну на сябе, што выклікае неабходнасьць праверак. І вось з прычыны гэтага ў адным палажэньні ня трэба зьмешваць гэтых пытаньняў, а трэба выдаць два паасобных законы: треба, каб першы быў датычны толькі да парадку выданьня абавязковых пастаноў і да накладаньня адміністрацыйнага пакараньня за парушэньне іх, а другі—аб парадку накладаньня адміністрацыйнага пакараньня за парушэньні, якія паказаны ў Крымінальным Кодэксе і ў іншых пастановах аб адміністрацыйным пакараньні, бо да гэтых парушэньняў апроч таго могуць прыстасоўвацца і іншыя тэрміны, іншыя разьмеры спагнаньня, а ў некаторых таксама паказан і парадак накладаньня пакараньне. Для гэтага зазначаная другая пастанова павінна прадугледжваць парадак накладаньня адміністрацыйнага пакараньня, паколькі ён не прадугледжан адпаведнымі пастановамі.

Што датычыць самай адміністрацыйнай кары, то пытаньне стаіць ня ў тым, каб была вялікая кара, а ў тым, каб па магчымасьці ніводнае парушэньне абавязковай пастановы не засталося без пакараньня, і каб гэтае пакараньне адбывалася хутчэй пасьля парушэньня. А для гэтага трэба, каб за парушэньні ўсіх абавязковых пастаноў

як выданых РВК і гарсаветамі, таксама і акруговымі выканаўчымі камітэтамі, адміністрацыйнае пакараньне накладалі раённыя выканаўчыя камітэты і гарсаветы ў разьмерах, якія будуць устаноўлены да іх кампэтэнцыі і толькі ў выключных выпадках, калі трэба павялічыць разьмеры кары, яны падавалі-б свае пастановы на зацьвярджэньне акруговых выканаўчых Камітэтаў.

Адміністрацыйнае пакараньне павінна накладацца старшынёю раённага выканаўчага камітэту і прэзыдыуму гарсавету, або членам іх, якому гэта прэзыдыумам будзе даручана. На гэтыя пастановы могуць падавацца скаргі, або просьбы аб перагледзе, якія разглядаюцца прэзыдыумамі. Гэтыя пастановы прэзыдыумаў лічацца канчатковымі і яны могуць быць абскарджаны толькі ў парадку нагляду на агульных падставах, чаго і ня трэба адзначаць у палажэньні, як само сабой зразумелае.

Апроч таго ў гарадох трэба даць права органам міліцыі накладаць штраф у разьмеры, які павінен быць паказан у палажэньні, за некаторыя парушэньні абавязковых пастаноў: як за парушэньне правіл язды, за курэньне ў мясцох грамадзкіх сходаў, дзе гэта забаронена, як напрыклад, у тэатрах і г. д.

Што датычыць тэрміну, на працягу якога павінна быць вынесена пастанова аб адміністрацыйным пакараньні, то, калі будуць праведзены паказаныя прынцыпы, да парушэньня абавязковых пастаноў могуць дапасоўвацца і тыя тэрміны, якія паказаны ў існуючым палажэньні, павінен быць вызначан адзін тэрмін у тры месяцы ад дня парушэньня, не падзяляючы яго на тэрмін-для падняцьця справы і тэрмін накладаньня кары.

Гэтае пытаньне трэба больш дакладна абмеркаваць пры вырашэньні тэрміну накладаньня адміністрацыйнае кары ў іншых выпадках, але для гэтага трэба разглядзець канкрэтна тыя пастановы, якія прадугледжваюць адміністрацыйнае пакараньне і таму ў гэтым артыкуле на гэтым пытаньні нельга спыніцца.

Вось тыя некаторыя пытаньні аб адміністрацыйным пакараньні за парушэньне абавязковых пастаноў, па якіх пажадана, каб выказаліся мясцовыя працаўнікі.

**К. Банін.**

---

## Белорусский кабинет по изучению преступности и преступника, его цели и характер деятельности.

Открытый 30-го октября 1926 года Белорусский Кабинет по изучению Преступности и Преступника является учреждением, аналогичным ряду сходных по названию учреждений, возникших с начала нынешнего столетия в крупных центрах Нового и Старого света.

Основная идея всех учреждений, предназначенных к изучению преступности—следующая. Для того, чтобы избавить общество от преступлений, недостаточно пенитенциарных мер, как-бы строги или гуманны они ни были; недостаточны также и самые продуманные и научно составленные уголовные кодексы и идеально конструированное судопроизводство и судоустройство. Необходимо проникнуть в самую глубину и сущность того сложного комплекса социальных явлений, из которых составляется преступность; необходимо вскрыть тесное соотношение между преступностью и другими сторонами социального быта. Основные условия, основная почва, на которой про-



израстает и расцветает преступность сводятся, главным образом, к социально-экономическим факторам. Но одни и теже экономические факторы действуют неодинаково на различных лиц. Голод подталкивает одного на убийство, другого—на мошеничество, третьего—на кражу, а у четвертого—повысит энергию, увеличит работоспособность и не свернет его с трудового пути.

Таким образом, чтобы понять и научно анализировать как преступность, так поведение и особенности отдельных правонарушителей, необходим всесторонний научный анализ, как социальных, так и индивидуальных моментов преступлений. Но это—не только знание для знания. Подробное изучение отдельных видов преступлений и отдельных преступников дает возможность более целесообразного пенитенциарного воздействия на правонарушителей.

Для осуществления этих задач и возникли постепенно учреждения, носящие название то „лабораторий по изучению преступности", то „кабинетов", то „институтов".

Первый институт по изучению преступости („Криминологический Институт") был создан в Аргентине, именно в г. Буэнос-Айресе в 1907 г., по почину известного американского психиатра, проф. Инженьерос. В том же году образовалась первая в Европе „лаборатория пенитенциарной антропологии" в Бельгии (Брюссель), во главе с доктором Вервеком. Далее идет открытие подобных учреждений в крупных центрах Американских Соединенных Штатов. В Европе также последовательно возникают: Лиссабонский Криминологический Институт (1919 г.), лаборатории в Перуджио (Италия) и в Париже (1924 г.). Но еще ранее последних открывается в 1923 году Московский Кабинет по изучению личности преступника и преступности, в настоящее время выпустивший ряд ценных научных трудов. Затем в Советском Союзе появляются: Ленинградский Криминологический Кабинет (при Ленинградском Губсуде), Краевая лаборатория по изучению преступности в Ростове на Дону, кабинет криминальной антропологии и судебно-психиатрической экспертизы в Саратове. В Москве в 1925 г. открыт также Государственный Институт по изучению преступности, первый сбор трудов которого уже появился в печати.

Государственный Институт об'единяет, в качестве своих филиалов, ряд местных кабинетов, имеющихся в РСФСР. Один из таких кабинетов недавно образован в Ленинграде, обладающем, таким образом подобно Москве, двумя специальными учреждениями, изучающими преступность. Везде в состав кабинетов и институтов входят виднейшие социологи, юристы и психиатры.

Небезинтересно отметить тот факт, что учреждения, подобные нашему, организовываются при различных комиссариатах. Так, Московский кабинет образовался при Московском Отделе Здравоохранения, Ленинградский—при Губсуде (Ком. Юст.), Московский Институт—при Наркомвнуделе. Наш кабинет открылся при Факультете Права и Хозяйства Белорусского Государственного Университета (Наркомпрос). Подобное положение дела отнюдь не случайно; этим доказывается, что в создании таких учреждений заинтересованы несколько Комиссариатов (Наркомюст, Наркомздрав, Наркомвнудел, Наркомпрос), а не один какой нибудь из них. Вот почему при организации Белорусского Кабинета мы решили создать при нем Совет, в состав которого входят представители всех четырех вышепоименованных комиссариатов, а также и другие лица, сотрудничество с которыми необходимо для успешной деятельности Института.

Работа нашего Кабинета представляется весьма сложной и разнообразной и распадается на следующие категории деятельности:

1) Научно-исследовательская деятельность. Сюда входит всестороннее изучение преступности, как социального явления, и преступника, как отщепившегося от трудовой жизни, в той или иной степени асоциального и деклассированного элемента. Созданный в Белоруссии, Кабинет наш примет во внимание и краеведческую сторону вопроса. Мы должны будем, с этой точки зрения, всегда обращать внимание на особенности преступлений и преступников, вытекающие из чисто белорусского социально-бытового уклада. Именно с этой точки зрения нами сейчас изучается хулиганство и убийство. Тогда как хулиганство у нас, по имеющимся данным, далеко не достигает таких размеров, как например, в Украине и в РСФСР, убийство, наоборот, представляется довольно грозным, по процентным отношениям, явлением белорусского быта.

2) Научно-учебная деятельность кабинета отчасти уже вытекает из тесной связи его с Институтом. Кабинет будет учебно-вспомогательным учреждением для студентов при преподавании им криминологии, криминальной психиатрии, криминалистики и пенитенциарной науки.

3) Научно-просветительная деятельность будет выявляться в виде публичных научных заседаний, лекций, собеседований. По примеру других кабинетов, предполагается также чтение общих или специальных курсов для пенитенциарных работников, работников судебных учреждений, работников органов дознания и других.

4) Наконец, организационно-практическая деятельность кабинета предполагает выработку исправительно-трудовых мероприятий, мер социальной профилактики, медицинских мероприятий по охране здоровья лишенных свободы. В дальнейшем необходимо будет учреждение судебно-психопатологической клиники при Минском Исправдоме, а также Криминологического Музея, материалы для которого уже собираются. Кабинет должен также взять на себя разработку вопросов психиатрической экспертизы, причем, однако, по опыту других кабинетов, психиатрическая экспертиза самим кабинетом, как коллективным экспертом, не производится, а кабинет лишь рассматривает и обсуждает производимые отдельными экспертами обследования и вырабатывает основные правила и приемы экспертизы.

Кабинет состоит в тесной связи с Народным Комиссариатом Юстиции; сотрудникам кабинета обеспечивается возможность ознакомления с делами, по которым идет судебное производство, а также и с теми, где производство закончено, поскольку эти дела относятся к кругу вопросов, изучаемых в данный момент кабинетом. Разумеется, всякое преступление, представляющее крупный научный интерес или имеющее важное социальное значение должно исследоваться кабинетом, если оно находится даже вне круга очередных работ кабинета. Благодаря отзывчивости органов Милиции и Уголовного Розыска, сотрудники кабинета знакомятся и с мелкими, но подчас характерными делами in statu nascendi.

Ясно также, что кабинет входит в тесный контакт с исправительно-трудовыми учреждениями Белоруссии, что обеспечивается, помимо прочего, вхождением в состав Совета Кабинета в качестве члена Совета Управляющего Местами Заключения. Работники кабинета имеют возможность исследовать отдельных лишенных свободы в месте их заключения; также организуются и массовые обследования, имеющие целью изучить быт лишенных свободы, их труд, их

творчество и другие особенности поведения. С целью обеспечения правильности приспособления правонарушителей к труду, кабинетом организуется психотехническое исследование заключенных, в результате которого проводится назначение работы сообразно уровню развития, способностям, интересам каждого исправляемого. Важные пенитенциарные проблемы, как-то: распределение заключенных по камерам, устройство занятий и развлечений, проведение культурно-просветительных мер всякого рода—тоже входят в круг деятельности кабинета.

Наш кабинет, далее находится в деловой связи с Центральным Статистическим Управлением Белоруссии, чем обеспечивается получение статистических данных о ходе преступности, о соотношении различных видов преступлений, а также и другога рода сведений из области моральной статистики.

В настоящее время в кабинете организованы, сообразно экономическим возможностям, две секции: секция криминальной социологии секция криминальной психологии и психиатрии. В дальнейшем необходимым является выделение, по крайней мере, двух новых секций: пенитенциарной и криминалистической.

Штатный состав кабинета является пока минимальным. Кроме двух заведывающих секциями (из них один вместе с тем несет обязанности директора кабинета) имеется всего лишь один штатный научный сотрудник. Такой скудный состав основных сотрудников с развитием деятельности кабинета должен быть, разумеется, пополнен.

Лишь благодаря живому интересу, проявленному к вновь образованному учреждению, выразившемуся, в частности в притоке добровольцев—работников (юристов, студентов, врачей и др.), благодаря также энергичной поддержке со стороны деканата Факультета Права и Хозяйства и со стороны указанных комиссариатов и учреждений, работа кабинета развивается и крепнет с каждым днем. Кабинетом выработана подробная печатная анкета для обследования правонарушителей; организуется специальная библиотека, сосредоточивающая а себе всю (русскую и иностранную) литературу по вопросам преступности; идет оборудование лаборатории для биохимических, антропологических и физиологических исследований. Устанавливается специальная кабина для изучения условных рефлексов и тормозных процессов. Начаты фотографические работы; собираются материалы творчества заключенных. Основная работа, как уже было указано, ведется в направлении изучения хулиганства и убийства в Белоруссии, и здесь уже добываются определенные данные, которые будут предметом докладов на научных заседаниях и научных статей.

Нами уже организована научная и дружеская связь с существующими в СССР Кабинетами и Институтами по изучению преступности и получены от этих учреждений теплые приветствия и пожелания. Мы верим, что мы не отстанем в работе от наших старших собратьев. Цель у нас с ними—общая и единая—борьба с преступностью. Всякая же успешная борьба завершается победой. По современным военным авторитетам, победа достигается не столько уничтожением живой силы противника, сколько его дезорганизацией. И наша задача—дезорганизация преступника—будет выполнена тогда, когда после всестороннего его изучения мы найдем средства, чтобы заставить нашего противника направить свои воинственные стремления на новый путь, путь социально-трудовой.

Изучить преступность, чтобы ее ликвидировать,—вот как вычерчивается основная линия работы нашего кабинета.

В союзе науки с широкими кругами советской общественности заключается залог будущих успехов в деле борьбы с грозным социальным явлением—преступностью.

**Проф. А. К. Ленц.**

---

# Да пытаньня аб беларускай юрыдычнай тэрмінолёгіі.

Побач з вялікім разьвіцьцём беларускае мовы мы наглядаем глыбока станоўчы факт стварэньня і разьвіцьця беларускай юрыдычнай тэрмінолёгіі.

Яна ствараецца ў пасяджэньнях нашых судоў, у жывых спрэчках цяжбеньнікаў, у прамовах пракурораў і абаронцаў; яна апрацоўваецца судзьдзямі ў іх рашэньнях і прысудах, абаронцамі—у іх іскавых заявах і касацыйных скаргах і, урэшце, яна дасягае высокай ступені шліфоўкі ў законапроэктах органаў, якія іх падрыхтоўваюць і ў выданых дэкрэтах ураду.

Гэта бясспрэчна зьяўляецца адным з зьвязваючых зьвеньняў паміж уладай і працоўнымі БССР і спрыяе хутчэйшаму ажыцьцяўленьню задачы ўцягненьня рабочых і сялян у кіраўніцтва дзяржавай. Але ў гэтай станоўчай зьяве мы знаходзім шэраг адмоўных момантаў.

Пазбаўленыя адзінага кіраўніцтва ў гэтай галіне працаўнікі нашых устаноў часта знаходзяцца ў надзвычайнай труднасьці, шукаючы таго ці іншага тэрміну, і не знаходзячы яго ў сваім лексыконе і ў лексыконе акаляючага іх сялянскага насельніцтва, яны шукаюць і быццам знаходзяць тэрміны ў слоўніку, ці проста выдумваюць новы тэрмін з галавы. У выніку, побач з вялікай колькасьцю папер правільна выкладзеных з пункту гладжэния мовы мы натрапляем на такія, дзе скажаюцца юрыдычныя разуменьні і ламаецца беларуская мова. Так, напрыклад, жадаючы паведаміць што „представляется отчетность о с о с т о я н и и учреждения на такое то число“, канцэлярыя піша: „прадстаўляецца справаздачнасьць аб м а е м а с ь ц і..., ці слова „лицо“ ў сэнсе суб'екта перакладаюць „твар“ замест „асоба“; „дело п р о и з в о д с т в о м прекратить“, перакладаюць „справу вытворчасьцю спыніць“. Многа прадстаўнікоў таксама не адрозьніваюць у беларускай мове разуменьні: „решение“, „определение“, „постановление“. Урэшце, перакладаючы пэрлы чыноўніцкае творчасьці расейскія „Акакий Акакиевичей“, „н а с т о я щ и м уведомляем Вас“, на беларускай мове нашы канцылярыстыя ствараюць такі самы пэрл: „ц я п е р а ш н і м паведамляем Вас“.

Калі ўсе гэтыя адзінкавыя „памылкі“ ў сьценах устаноў не прадстаўляюць сабою такой вялікай небясьпекі, то паўтарэньне іх у шэрагу прысудаў і рашэньняў судоў і ў іншых публічна-абвяшчаемых актах вельмі часта прыводзіць да скажэньня сэнсу гэтых важных дакумэнтаў, што можа даць вельмі адмоўныя вынікі для цяжбеньнікаў і падсудных, а таксама асоб абавязаных выконваць загады ўлады. У паасобку, у адносінах да суду трэба зазначыць яшчэ наступнае: калі суд зьяўляецца сапраўды органам выхаваўчага значэньня, накіроўваючым свае судовыя рашэньні і прысуды ў правасьвядомасьць насельніцтва, то ясна, якім тормазам зьяўляецца не-

дакладнае азначэньне тэрмінаў часам параблытаньне розных разуменьняў выдуманьнем слоў, відавочна чужых вуху беларускага селяніна і рабочага.

Урэшце, адсутнасьць дакладнае тэрмінолёгіі адмоўна адбіваецца як на працы студэнтаў тых кадраў моладзі, каторыя ў бліжэйшыя 5—10 год павінны заняць месцы ў судовых і адміністрацыйных органах нашых вёсак, мястэчак, раённых і акруговых цэнтраў так і— што вельмі важна,—на разьвіцьці навукі на беларускай мове. Сапраўды, усім вядома, да якой блытаніны разуменьняў прывяло пры выданьні „Капіталу“ на расейскай мове пераклад слова „Wert“, то словам „стоимость“, то словам „ценность“.

Аднак, вастрата гэтага пытаньня некалькі зьмякчаецца выданьнем законаў на беларускай мове, але з тае прычыны, што да выданьня на дзьвёх мовах прыступілі толькі ў 1925 г., у нас адсутнічаюць беларускія тэксты большасьці кодэксаў.

Трэба зазначыць, што ў даным выпадку жыцьцё апярэдзіла працу нашых органаў і ставіць перад імі задачы хутчэйшага выданьня апрацаванай юрыдычнай тэрмінолёгіі і беларускіх тэкстаў нашых кодэксаў.

Да гонару НКЮ і праўнае сэкцыі Інбелькульту трэба тут-жа зазначыць, што гэта праца ўжо праводзіцца: НКЮ, займаючыся зараз кодыфікацыяй нашага законадаўства, у паасобку кодэксаў, адначасна перакладае іх на беларускую мову, а праўная сэкцыя Інбелкульту ўжо каля году як разаслала на водзыў проэкт слоўніка юрыдычных тэрмінаў.

Нажаль, па некаторых прычынах не прыкмячалася колькі небудзь жывога ўдзелу ад нашай грамадзкасьці ў стварэньні тэрмінолёгіі. Цяжкасьць гэтае працы несьлі некалькі асоб. Толькі ў апошні час наглядаецца вялікая цікавасьць да гэтага пытаньня.

А між тым такая вялікая праца напэўна ня можа быць зроблена без некаторых памылак і сапраўды азнаёміўшыся з выпрацаванай тэрмінолёгіяй, мы знаходзім шэраг спрэчных момантаў, на некаторыя з іх я зазначу.

1) Паколькі тэрмін павінен дакладна фіксаваць пэўнае разуменьне, мы павінны імкнуцца да таго, каб было па магчымасьці менш такіх тэрмінаў, каторыя адначасна выражаюць два ці некалькі разуменьняў. Між тым у тэрмінолёгіі распрацаванай праўнай сэкцыяй гэта далека не захована. Так тэрмін „уплыў“ адначасна азначае „воздействие“ и „влияние“,—разуменьні, каторыя трэба строга адрозьніваць асабліва ў крымінальным праве.

Слова „забесьпячэньне“ перакладаецца и „страхование“ и „обеспечение“. „Договор“ у тэрмінолёгіі перакладаюць 3-мя тэрмінамі: „дагавор“, „угода“, „умова“, але ў той-жа час „угода“ па тэй-жа тэрмінолёгіі азначае—„сделка“, „соглашение“, а „умова“—„условие“. Праўда, у жыцьці ўжываюць усе гэтыя тры словы калі кажуць аб „договоре“, але гэта тлумачыцца тым, што насельніцтва блытае гэтыя разуменьні. Між тым, у грамадзянскім праве гэта—зусім розныя разуменьні і кожнае з іх павінна мець свой тэрмін. Можна сабе ўявіць, якая блытаніна створыцца ў розумах студэнтаў, альбо ў рашэньні суду, калі карыстаючыся тэрмінолёгіяй, слова „договор“ будуць азначаць то адным, то другім, то трэцім тэрмінам.

Такіх прыкладаў можна прывесьці дужа многа: „ахова“, „збор“, „адозва“, і г. д., а між тым можна пэўна сказаць, што ў цэлым шэрагу выпадкаў пры навуковым падыходзе можна пазбавіцца гэтага непажаданага зьявішча.

2) Некаторыя расейскія тэрміны пры іх перакладзе атрымоўваюць зусім іншы сэнс. Так „вотчина“ неправільна перакладзена „бацькаўшчына“, „мелиорация“—„асушка зямель“, „домашний договор“—„хатні дагавор“, „обычное право“—„няпісанае права“. Ва ўсіх гэтых выпадках тэрміны, прыведзеныя ў проэкце тэрмінолёгіі, ці звужаюць тыя разуменьні, каторыя яны павінны выражаць, ці зусім іх не выражаюць. Ня ўсякая норма няпісанага права ёсьць „обычное право“, „домашний“ ў данным выпадку азначае „неформальный“, „бацькаўшчына“—гэта „отечество“ і г. д.

3) Тут мы спатыкаемся з іншым момантам, каторы часта прыводзіць да непажаданых вынікаў падобна зазначаным вышэй. Часта чужаземныя словы, которыя ўласна зьяўляюцца не чужаземнымі, а міжнароднымі тэрмінамі, замяняюцца беларускімі словамі, каторыя зусім не заключаюць ў сабе яснае юрыдычнае разуменьне, выражанае „чужаземным“ тэрмінам. Так „акредитив“ замяняецца словам „паўнамоцтва“; „арбитр“—„пасрэднік“; „чэк“ побач з правільным у беларускім тэксьце словам „чэк“--перакладаецца і словам „квіт“, хоць гэта слова мае зусім іншае значэньне („квитанция“). Лічачы патрэбным адзначыць, што ўкладчыкі юрыдычнае тэрмінолёгіі правільна падышлі да гэтага пытаньня, пакінуўшы шэраг чужаземных тэрмінаў; мы лічым, што ў зазначаных намі (як і ў некаторых другіх) выпадках трэба было-б пакінуць міжнародныя тэрміны. Большасьць юрыдычных інстытутаў, азначаных гэтымі тэрмінамі не спатыкаюцца ў жыцьці селяніна ці рабочага, і таму няма адпаведных беларускіх тэрмінаў з пункту гледжаньня навукі, вельмі важна ўжываць тыя тэрміны, каторыя маюць міжнародны характар.

4) У тэрмінолёгіі ёсьць некаторая няпоўнасьць. Ня дадзеныя ў беларускай тэрмінолёгіі разуменьні маючыя вялікае значэньне ў праве: „аналогия“, „альтернатива“, „квалификация“, „кампания“, „компетенция“ і г. д.

Ня спыняючыся на многалікіх вартасьцях распрацованай тэрмінолёгіі, мы толькі выказваем пажаданьне аб хутчэйшым выхадзе яе ў сьвет, дзеля таго, што яна і ў гэтым відзе прынясе вялікую карысьць усім працаўнікам юстыцыі.

Выпрацоўка-ж поўнай, навукова-абаснованай тэрміналёгіі зьяўляецца справай не аднаго году і гэта праца павінна праводзіцца з прыцягненьнем па магчымасьці большага кола асоб, з кадру юрыстаў —практыкаў, неюрыстаў--знаўцаў мовы і навуковых працаўнікоў БССР.

**Гаўзэ.**

---

# Алімэнты на ўтрыманьне дзіцяці і сялянскі двор *).

Проэкты кодэксаў законаў аб шлюбе, сям'і і апецы БССР, РСФСР і УССР адзінакава ўстанаўляюць, што „ўзаемныя правы і абавязкі бацькоў і дзяцей грунтнуюцца на сапраўдным пахаджэньні дзяцей, незалежна ад таго, ці лічыліся іх бацькі ў момант зачацьця і нараджэньня ў шлюбе, ці не“ (арт. 34 проэкту СНК БССР).

Прыведзеная вышэй норма, пры чытаньні яе, робіцьуражаньне, што ў гэтай справе нібы ўсё добра—сапраўды няма ніякай розьніцы паміж дзіцем, якое нарадзілася ў шлюбе і дзіцем пазашлюбным,—пазашлюбны таксама мае бацьку, які абавязан выявіць да яго ўсе ўласьцівыя бацьку клопаты.

---

*) Артыкул—дыскусыйны. РЭДАКЦЫЯ.

Аднак, калі ўдумацца глыбей і прыняць пад увагу яшчэ і артыкул 42 нашага проэкту шлюбнага кодэксу (паказанага артыкулу ў першапачатковым проэкце НКЮ ня было і ён быў унесен КЗП), то прыдзецца некалькі ўсумніцца ў тым, што дзеці аднаго і таго-ж бацькі, але народжаныя ад зарэгістраванага і незарэгістраванага шлюбу, знаходзяцца ў аднолькавым юрыдычным становішчы.

42 артыкул дае бацьку дзіцяці, народжанага ім ад нерэгістраванага шлюбу, шырокую мажлівасьць паставіць гэта дзіця ў двохзначнае становішча. Трэба яму толькі давесьці, што маці дзіцяці ў пэрыяд яго зачацьця, знаходзілася ў палавых зносінах з іншымі асобамі, і тады суд, які затрудняецца вырашыць, хто-ж з гэтых асоб сапраўдны бацька, можа пастанавіць аб прыцягненьні ўсіх гэтых асоб да ўдзелу ў выдатках на ўтрыманьне дзіцяці.

Выканальны ліст маткі дзіцяці супроць групы бацькоў зьяўляецца ня зусім пэўным спосабам, каб задаволіць яе вымаганьні: трэба толькі ўявіць сабе, што асобы, на якіх ускладзен абавязак плаціць алімэнты, разьехаліся ў розныя бакі. Але якое-ж становішча самога дзіцяці? хто-ж яго бацька? Судовае рашэньне пастаноўленае на падставе 42 арт. назаўсёды спыняе мажлівасьць назваць каго-б небудзь сваім бацькам; апроч таго рашэньне кладзе пляму на яго матку.

Шмат пытаньняў, наогул паўстае пры абмеркаваньні проэкту шлюбнага кодэксу, але мы ў даным выпадку затрымаемся на пытаньні аб найбольш сапраўдным забесьпячэньні інтарэсаў дзяцей, якія нарадзіліся ад незарэгістраванага шлюбу,—пытаньне аднолькава вострае як у выпадку прызнаньня кодэксам факультатыўнасьці рэгістрацыі шлюбу, так і пры яе абавязковасьці.

Але, калі некаторыя дэфэкты проэктаванага кодэксу па даным пытаньні, як, напрыклад, норма 42 арт., могуць быць выпраўлены без асаблівае цяжкасьці, то ў цэлым вырашэньне яго сустракае шэраг перашкод, выкліканых супярэчнасьцю інтарэсаў розных груп насяленьня.

Так, нарыклад, алімэнтныя іскі, якія зьвязаны з правам дзіцяці на ўтрыманьне ад свайго бацькі не выклікаюць асаблівых супярэчаньняў, пакуль яны тычацца асоб, не належачых да катэгорыі працоўных землякарыстальнікаў. Але як толькі зачапляюцца інтарэсы двара, паўстаюць і супярэчаньні.

Выходзячы з зусім бяспрэчнага палажэньня аб неабходнасьці прымаць усе мажлівыя захады да захаваньня сілы і жыцьцяздольнасьці двара, звычайна супярэчаць спагнаньням па алімэнтных іcках на агульную маемасьць двара. Пры гэтым апіраюцца на пастанову 69 арт. Зям. Кодэксу, якая гаворыць аб тым, што маемасьць двара ня можа быць прысуждена ў выплату за даўгі паасобных членаў двара, што зроблены імі для сваіх асабістых патрэб.

Трэба зазначыць, што спагнаньні за даўгі паасобных членаў двара, якія вынікаюць з яго асабістых або іншых маемасных адносін (арт. 69 Зям. Код.), растлумачваюцца НКЮ БССР (С. У. 1924 г. № 15, арт. 136) у тым сэнсе, што гэтыя спагнаньні могуць брацца з маемасьці двара, у склад якога ўваходзіць адказчык, але яны абмяжоўваюцца належачай члену двара часткай у супольнай гаспадарцы.

Мы з свайго боку думаем, што паказанае растлумачэньне НКЮ ня можа быць аднесена да даўгоў па выплаце алімэнтаў. Абавязак плаціць алімэнты дзіцяці (ці жонцы) носіць ня прыватны, а публічны характар—гэта не задавальненьне „асабістых патрэб“, а сацыяльны абавязак, чаму да данага выпадку зусім нельга прыстасоўваць заба-

раняльнай нормы арт. 69 Зям. Код. Значыць і на падставе дзейнага ў нас права трэба прыйсьці да заключэньня, што алімэнты можна спаганяць з маемасьці сялянскага двара, у склад якога ўваходзіць адказчык.

Проэкт шлюбнага Кодэксу, унесены СНК на абмеркаваньне сэсіі ЦВК, не дае аднак аб гэтым ніякіх конкрэтных указаньняў. Артыкулы-ж, заметкі, якія зьявіліся ў друку, а таксама спрэчкі ў ЦВК РСФСР пры разглядзе ўнесенага проэкту Кодэксу паказваюць, што на гэта пытаньне трэба даць дакладны і пэўны адказ у самым Кодэксе аб шлюбе, сям'і і апецы.

Але які адказ—вось пытаньне?

Захаваньне сілы і моцнасьці сялянскага двара—неабходная прадпасылка ў савецкім будаўніцтве, але ці ўсе меры можна дазваляць, усе іншыя інтарэсы павінны адступаць перад інтарэсамі адзінага двара?

Перш за ўсё трэба памятаваць, што калі цьвёрда стаць на пункт погляду недапушчальнасьці спагнаньня на маемасьць сялянскага двара па алімэнтнаму іску да аднаго з членаў двара, то прыдзецца наогул прызнаць гэтакага роду іскі да членаў двара зусім безнадзейнымі: з маемасьці двара спагнаць нельга, а іншай маемасьці ў сялянскага сына звычайна няма. Адсюль—поўная воля для ўтварэньня бяздомных, бязыменных дзяцей. Такі кадр пакрыўджаных лёсам і людзьмі дзяцей ня можа прынесьці нічога карыснага для грамадзянства наогул і ў паасобку для вёскі. Ці ня лепей проста ў адным з артыкулаў Кодэксу аб шлюбе, сям'і і апецы, устанавіць права спаганяць алімэнты і з маемасьці ўсяго двара. Ня трэба забываць, што і паводле закону (63 арт. Зям. Код.) і асабліва ў сапраўдным жыцьці, двор зьяўляецца аб'яднаньнем сямейна-працоўным. У гэтым аб'яднаньні ўсе члены, як агульнае правіла, злучаны паміж сабою сваяцка-кроўнаю сувязьзю, і маральны ўплыў іх адзін на другога вельмі значны, ён падмацоўваецца таксама і супольнасьцю гаспадарчых інтарэсаў.

Дзеля гэтага пагроза спагнаньня алімэнтаў з маемасьці двара павінна пацягнуць за сабой націск усяго аб'яднаньня на сваіх членаў у сэнсе ўстрыманьня ад беспарадачных палавых зносін. Шлюбы будуць заключацца сур'ёзна (у гэтых адносінах ня робіць розьніцы форма шлюбу), жонка будзе ўваходзіць у склад двара, і колькасьць алімэнтных спраў значна паменшыцца, тым болей, што ў сялянскім быце па сутнасьці няма эканамічных і бытавых умоў, якія перашкаджалі-б уступленьню ў раньнія шлюбы.

Увядзеньне ў проэктуемы Кодэкс вышэйпаказанай нормы і яе правядзеньне ў жыцьцё можа, праўда, мець сваім вынікам распадзеньне або зьбядненьне некалькіх двароў; але такія-ж вынікі могуць быць ад іншых прычын. Баяцца гэтага аднак ня трэба, бо сапраўднае і няўхільнае правядзеньне ў жыцьце агалошанага ў арт. 34 прынцыпу (поўнага параўнаньня ў правох дзяцей ад шлюбу зарэгістраванага і незарэгістраванага) павінна значна ўпарадкаваць і аздаравіць шлюбныя ўзаемаадносіны, павінна павесьці ў паасобку на вёсцы, да больш сур'ёзных адносін да шлюбу, зрабіўшы з яго саюз, моцны ўзаемнымі інтарэсамі супругаў як матар'яльнага, так і нематар'яльнага характару.

Дзяржава зацікаўлена ў тым, каб шлюбныя адносіны не рабіліся беспарадачнымі палавымі зносінамі і каб дзіцяці і беднаму

супругу была забясьпечана матар'яльная дапамога бацькі і супруга, незалежна ад формы шлюбу. Калі апошняе будзе дасягнута, то прытупіцца і вострасьць пытаньня аб форме шлюбу, што ў сваю чаргу палегчыць пераход да больш перадавых форм шлюбу*).

**Б. Ватацы.**

# *Старонка практыка.*

## Прабел ў Крымінальным Кодэксе БССР.

(Да надыходзячай кодыфікацыі).

Пры разглядзе крымінальных спраў выяўляецца, што тая ці іншая асоба часамі зьяўляецца да некаторай ступені датычнай да злачынства, аднак яна высьлізгае ад уплыву меры сацыяльнай абароны з прычыны недастачы адпаведнага артыкулу ў Крымінальным Кодэксе.

Прывядзём два прыклады: 1) бандыт А прапануе сваім знаёмым Б і В забіць і аграбіць сям'ю заможнага гандляра, пры чым разьвінае перад імі падрабязны плян злачынства. Б згаджаецца прыняць удзел у злачынстве, а В, лічачы яго небясьпечным—адмаўляецца. Злачынства ўчыняецца. Прычым В вядома месца, час і ўдзельнікі надыходзячага злачынства, а па ўчыненьні і ўсе падрабязнасьці паведамлены яму ўдзельнікамі.

2) Жонка домаўласьніка С атручвае свайго мужа з мэтаю скарыстаць яго спадчыну і выйсьці замуж за свайго палюбоўніка Т. Апошні, ня прымаючы асабістага ўдзелу ва ўчыненьні злачынства, сочыць за яго ходам, і абедаючы за адным сталом з мужам і жонкаю, добра ведае, што ў страву мужа падсыпана атрута.

Будучы прыцягнутым да адказнасьці ў якасьці ўдзельнікаў учыненых злачынстваў. „В“ і „Т“ павінны быць судом апраўданы, калі толькі яны ня прымалі ніякага ўдзелу ў падрыхтоўцы і ўчыненьні злачынных дзеяньняў, бо непаведамленьне аб добра вядомых надыходзячых і ўчыненых злачынствах цягне за сабою пазбаўленьне волі (арт. 89 КК) толькі ў тым выпадку, калі справа датычацца да ўдзелу ў контррэвалюцыйнай арганізацыі і шпіёнстве і інш. злачынствах, прадугледжаных артыкуламі 58—66 К.К. У іншых-жа выпадках непаведамленьне не караецца. Аднак, наша правасьвядомасьць падказвае нам, што „В“ і „Т“ зьяўляюцца асобамі сацыяльна небясьпечнымі, бо яны, маючы магчымасьць недапусьціць учыненьне злачынства, сьвядома і з намерам не перашкаджалі ўчыненьню яго.

Мала таго, ясна, што калі не абое яны, то, прынамсі, Т зьяўляецца асабіста зацікаўленым ва ўчыненьні злачынства.

Паводле дарэвалюцыйных законаў каралася толькі непаведамленьне аб важнейшых злачынствах, і таму міравым статутам

---

*) Ужо пасьля напісаньня гэтага артыкулу быў атрыман афіцыйны тэкст прынятага У. У. Ц. В. К'ам Кодэксу „аб сям'і, апецы, шлюбе і аб актах грамадзянскага стану“, у якім цэлы разьдзел (арт. арт. 33—36) прысьвечаны пытаньню „аб спагнаньнях алімэнтаў з членаў сельскага двара“, пры чым пастаўленае вышэй пытаньне знайшло сабе дакладнае разьвязаньне.

непаведамленьне не прадугледжвалася. „Улож. о наказ.“ (арт. арт. 14 і 15) адрозьніваў патуральнікаў—асоб, якія мелі магчымасьць папярэдзіць злачыннасьць, але з намерам ці, прынамсі, заведама, дапусьцілі ўчыненьне яго,—і неданосьнікаў—асоб, якія, ведаючы аб задуманым ці ўжо ўчыненым злачынстве і маючы магчымасьць давесьці аб тым да ведама ўраду, ня выканалі гэтага абавязку.

Нам здаецца, што трэба прытрымоўвацца прынцыпу адказнасьці за неўмяшаньне, калі яно стаіць у прычыннай сувязі з наступіўшай шкодаю, таму мы лічым пажаданым, каб пры надыходзячай кодыфікацыі Крымінальнага Кодэксу выключыць з артыкулу 89 словы „прадугледжаных артыкуламі 58—66 Крым. Кодэксу“ і перамясьціць гэты артыкул з спэцыяльнай часткі К. К. да агульнай часткі. Пры гэтым можна было-б унесьці ў гэты артыкул агаворку аб ступені адказнасьці неданосьнікаў у залежнасьці ад акалічнасьцяй справы: асабістай зацікаўленасьці неданосьніка, ступені небясьпекі ўчыненага злачынства і г. д.

**С. Рахманін.**

---

# Іскі аб калецтве.

Савецкі Гр. Прац. Код. ведае катэгорыю прывілейных іскаў: іскі аб заработнай плаце працаўнікоў да работадаўцы, іскі па сац. забясьпецы працаўнікоў, іскі аб спагнаньні алімэнтаў беднымі асобамі ад іх сваякоў, якія знаходзяцца ў лепшым матар‘яльным становішчы.

Гэтыя іскі маюць перавагу над іншымі іскамі як пры судовым разглядзе справы, таксама і ў парадку выкананьня.

Так, іскавая заява аб алімэнтах падаецца суду па месцы пражываньняісца, а не адказчыка, як гэта патрабуецца пры іншых іскавых заявах. Далей, судовыя рашэньні па ўсіх гэтых катэгорыях іскаў павінны безадкладна выконвацца нават у адносна да дзяржаўных органаў, чаго не дапушчаецца адносна іншых іскаў; пры спагнаньні з заложанае маемасьці зарплата, сацыяльная забясьпека і алімэнты маюць перавагу над іншымі спагнаньнямі, таксама і пры разьмеркаваньні судовым выканаўцам спагнаных сум, калі і гэтых сум нехапае для здавальненьня ўсіх прэтэнзій, выканальныя лісты па гэтай катэгорыі іскаў маюць перавагу над іншымі. Прывілеі гэтых спагнаньняў адпавядаюць агульнаму сэнсу савецкага заканадаўства, якое мае на мэце найлепшае задавальненьне інтарэсаў рабочае клясы і незаможных. Таксама мы бачым падобныя прівілейныя іскі ў дарэволюцыйным праве і ў праве іншых буржуазных дзяржаў як, напр. іскі, якія грунтуюцца па натарыяльных дакумэнтах.

Апроч вышэй пералічаных іскаў, ёсьць яшчэ падобныя да іх іскі аб страце працаздольнасьці аб калецтве, іскі з прычыны сьмерці ад дзейнасьці другіх асоб.

Найвышэйшы Суд УССР у сваім абежніку № 54 за 1925 г. прыраўняў гэтыя іскі адносна безадкладнага выкананьня судовага рашэньня па іх, да іскаў аб алімэнтах. Прыраўненьне гэтых іскаў да алімэнтных зьяўляецца правільным, бо ў гэтых іісках узаемаадносіны паміж удзельнікаў і становішча старон аднолькавы, як і ў алімэнтных іісках, у іісках аб калецтве, з аднаго боку зьяўляецца незаможная асоба (ісьцец), з другога—асоба, якая мае лепшае матар‘яльнае становішча (адказчык), апроч гэтага пацярпеўшаму зроблена шкода ад парушэньня яго праў.

Прычыненьне шкоды павінна цягнуць за сабою прысуджэньне на карысьць пацярпеўшага пры пазбаўленьні працаздольнасьці або калецтве і на карысьць асоб, якія знаходзіліся на ўтрыманьні памершага, пэрыядычных выдач у форме пэнсіі, а не адначасовай сумы.

Пры прысуджэньні гэтае пэнсіі бярэцца пад увагу матар'яльнае становішча і ступень сацыяльнай карысьці пацярпеўшай асобы, таксама-ж матар'яльнае становішча асобы, якая зрабіла шкоду. Усё гэта падкрэсьлівае правільнасьць прыраўнаньня гэтых іскаў да аліментных. Вось чаму і ў нас у БССР, трэба прыраўняць гэтыя іскі да іскаў аб аліментах адносна паданьня іскавых заяў па месцы пражываньняісца, а не адказчыка, адносна разгляду гэтых спраў у хуткім часе, адносна безадкладнага выкананьня рашэньняў суду, прыраўнаньня да аліментных іскаў пры спагнаньні і дапушчэньня папярэдняй забясьпекі іскаў.

У гэтым сэнсе трэба дапоўніць 25 (увага), 83, 187, 266 ар. ар. Гр. Пр. Код., або выдаць абежнік Найвышэйшага Суду БССР, які-б растлумачыў гэтае пытаньне.

**М.**

---

## О порядке надзора.

В отличие от кассационного порядка обжалования дел—порядок надзора—является исключительным и наш законодатель пред'являет требование для лиц истребовавших дело в порядке надзора (427 ст. УПК)—только в случаях существенных нарушений и представлять дело в соответствующие судебн. инстанции на предмет отмены.— Оно и понятно, ибо вступивший в законную силу приговор может быть поколеблен только в исключительных случаях, так как в противном случае будет подрываться авторитет силы судебного решения.

Между тем на практике мы встречаем сильные искривления этой линии и отход от мысли законодателя.

Наиболее существенные из них я постараюсь перечислить.

Как известно, срок кассационного протэста для Прокурорского надзора по приговорам Нарсудов—две недели, и, так как Прокуроры загружены работой, то иногда приходится пропускать срок для опротестования, и вместо того, чтобы обратиться в соответствующий Суд с просьбой о восстановления срока, кассационный протест переименовывается в протест „в порядке надзора"; аналогичное положение имеет место с приговорами Окрсудов, где это явление сравнительно чаще, ибо срок опротестования гораздо короче. При таких условиях всякая грань между порядком надзора и кассационным обжалованием—исчезает.

Мне думается, что для опротестования в порядке надзора необходимо два условия:

1) По делам НАРСУДОВ: или обращение приговора в законную силу к исполнению, или утверждение приговора кассационной инстанцией.

2) Обязательное предварительное затребование дела, лицом подающим протест в порядке надзора.

В последнее время мы имеем случаи, когда дело Окрсуда восходило по кассационному обжалованию до Верховного Суда, было у Прокурора Республики и после всего этого, вдруг требуется в порядке Надзора Окружным Прокурором.

Спрашивается, что может сделать в данном случае Прокурор? Или же бывает иначе, что Окрпрокурор не согласен с постановлением Угол. Кассац. Коллегии Верхсуда, он требует дело в порядке Надзора, пишет свои мотивы и т. д., чем только тормозится нормальный порядок рассмотрения дела, арестованные содержатся лишнее время под стражей и отделяется момент совершения преступления от репрессии.

Приведенные выше мною явления—нельзя признать нормальными, и в этот вопрос следует внести ясность и вот каким образом.

Прокурору Округа предоставляется право требовать дела в порядке надзора—восходившие только до Окружного Суда, включая Пленум. Дела же Окружных и Нарсудов, бывшие на рассмотрении Верховного Суда (его Коллегий или Пленума), а также Прокурора Республики или его помощников, может истребовать вновь лишь Прокурор Республики (или помощник) и Председатель Верховного Суда (или заместитель), при чем само собой разумеется, что Окрпрокуроры и Председатели Окрсудов имеют право входить с представлениями к Прокурору Республики об истребовании того или иного дела.

Этот порядок, однако, не должен распространяться на дела, возобновляемые по вновь открывшимся обстоятельствам.

Затронутые мною вопросы можно разрешить путем дачи пленумом Верховного Суда соответствующего раз'яснения.

**В. Гинзбург.**

---



# Растлумачэньні.

## Растлумачэньне Пленуму Вярхоўнага Суду БССР за 28 кастрычніка 1926 г.

У плянарным пасяджэньні Вярхоўнага Суду за 28-га кастрычніка 1926-га году дадзены наступныя растлумачэньні:

1) аб парадку прыняцьця да справаводзтва Суду пратаколаў Ляснога Ведамства на лесапарушальнікаў, Пленум Вярхсуду растлумачыў:

а) пры паступленьні ад Ляснога Ведамства пратаколаў на лесапарубшчыкаў у выпадку, калі пры апошніх няма даведак, з якіх было-б відаць, што абвінавачваемыя раней панесьлі адказнасьць за лесапарушэньне ў адміністрацыйным парадку, то гэтыя пратаколы, да свайго справавядзеньня ня прымаць, а накіроўваць у адпаведны орган для налажэньня адміністрацыйнага ўзысканьня;

б) у тым выпадку, калі пры пратаколе маецца даведка аб ранейшай адказнасьці лесапарубшчыка —узбуджаць супроць апошняга судовае прасьледваньне ў звычайным парадку;

в) па тых-жа справах, якія былі скасаваны Акруговым Судом, з прычыны адсутнасьці пры апошніх паказаных у п. 1 даведак, нарсудзьдзі павінны запатрабоўваць гэтыя даведкі адпаведных органаў. Калі будуць атрыманы дадатныя адказы аб папярэднім прыцягненьні да адказнасьці лесапарубшчыка, то справу трэба слухаць у звычайным судовым парадку. Калі-ж на гэтыя пытаньні будуць адмоўныя адказы, то справы ў крымінальным парадку павінны быць спынены і накірованы ў адміністрацыйныя органы.

2) Аб праве Суду спыняць крымінальныя справы ў судовым пасяджэньні ня выносячы прыгавару паводле артыкулу 4 і 4-а КПК Пленум растлумачыў:

Крымінальнае прасьледаваньне паводле арт. арт. 4 і 4-а КПК, можа быць спынена ў ва ўсякай стадыі працэсу, як у распарадчым, так і ў судовым пасяджэньні азначэньнем Суду, ня выносячы прыгавару.

3) Аб праве Суду ў распарадчым пасяджэньні знаёміцца з усім матар'ялам справы, Пленум растлумачыў:

Суд у распарадчым пасяджэньні можа знаёміцца са ўсім справавядзеньнем. Член-жа, дакладчык справы, які дакладвае яе распарадчаму пасяджэньню Суду, ня толькі можа знаёміцца са ўсім справавядзеньнем, але абавязан вывучыць увесь матар'ял справы і далажыць яго на распарадчым пасяджэньні.

Калі-ж затрымацца толькі на абвінавальным акце, то нельга-б было выканаць вымаганьні артыкулу 240 КПК і судзіць аб справядлівасьці, або несправядлівасьці абвінавальнага акту, які можа быць, судом перароблены і г. д. пры незгаджэньні з ім суду.

4) Аб магчымасьці спыненьня крымінальных спраў прыватнага абвінавачаньня пры перамене пакрыўджаным месца пражываньня, або паступленьні яго ў Чырвоную Армію, Пленум растлумачыў:

Крымінальныя справы, узьнікшыя па прыватных абвінавачаньнях (арт. 10 КПК), ня могуць быць спынены з прычыны перамены пакрыўджаным месца пражываньня. Пакрыўджанаму, па новаму месцу пражываньня, павінна быць накіравана абвестка і, калі пакрыўджаны і на гэты раз ня зьявіцца на

судовае пасяджэньне, справа спыняецца згодна 270 арт. КПК.

5) Аб адказнасьці народных засядацеляў пры іх ня яўцы ў судовае пасяджэньне, Пленум растлумачыў:

Пры азначэньні спагнаньня за няяўку ў пасяджэньне суду з народнага засядацеля, калі гэта няяўка ня мае за сабою ўважлівых прычын, трэба кіравацца ўвагай да арт· 31 Паладжэньня аб Судабудаўніцтве, а за ўхіленьне ад яўкі,— кіравацца арт. 104-а Крыміналнага Кодэксу.

6) Аб абраньні меры прасячэньня пры вынясеньні прыгавору Пленум растлумачыў:

Пры вынясеньні прыгааору, прысуджаючага падсуднага да кары, прадугледжанай п.п. „а“, „б“ і „в“ арт. 32 КК, суд павінен абмеркаваць пытаньне аб абраньні меры прасячэньня.

7) аб кваліфікацыі пакражы маемасьці, калі ўкрадзенае было неабходным сродкам існаваньня пакрыўджанага, Пленум растлумачыў:

Кваліфікаванай кражай (п. „б“ арт. 180 КК, калі ўкрадзенае было заведама неаходным сродкам існаваньня пакрыуджанага (траба лічыць тую, пры якой, рабіўшы пакражу, наперад ведаў, што ўкрадзенае было неабходным сродкам існаваньня пакрыўджанага, ці тых асоб, якіх ён утрымоўвае. Сюды адносяцца тыя здарэньні, калі ўкрадзенае маёмасьць прадстаўляе сабою прылады, альбо матэр'ялы вытворчасьці (струмант рабочага), утрата якіх збаўляе пакрыўджанага магчымасьці дабываць сабе сродкі на існаваньне, ці хоць-бы істотна перакшкаджалі яму ў гэтай магчымасьці. Пад гэты від кражы падыходзіць і пакража прадметаў харчаваньня, адзежы, апалу і інш. прадметаў першай неабходнасьці, калі згуба іх, з прычыны адсутнасьці ў пакрыўджанага адпаведных запасаў, ці сродкаў існаваньня ставіць апошняга ў бязвыхаднае ці натта цяжкае становішча.

Пры гэтым, аднак, патрабуецца, каб краўшы наперад ведаў, ці па ўсіх абставінах злачынства ня мог ня ведаць, што пакража зьяўляецца сродкам існаваньня для пакрыўджанага. З гэтае прычыны ў кожным паасобным выпадку суд павінен установіць гэтыя азнакі.

8) Аб парадку зьняцьця штрафу з сьведак, аштрафаваных судом за няяўку ў суд (арт. 49 ГПК) Пленум растлумачыў:

а) Аштрафаваныя ў парадку 49 арт. ГПК сьведкі, прычыны няяўкі якіх судом будуць прызнаны нездавальняючымі, пасьля атрыманьня паведамленьня, ці абвесткі аб аштрафаваньні, могуць падаць суду довады аб прычынах, сьведчачых іх няяўкі. У такім разе, суд прызнаўшы няяўкі сьведак уважлівымі, здымае з іх штраф спэцыяльнымі сваімі пастановамі. Аднак, суд не пазбаўлен права, увайшоўшы ў разгляд гэтых довадау, прызнаць іх ня ўважлівымі, хоць-бы пасьведчаньні былі і офіцыйнага характару.

б) Азначэньне суду аб аштрафаваньні сьведкі за няяўку, ці аб адмауленьні аб аслабаеньні ад штрафу, можа быць абскарджана ў парадку прыватных абскарджаньняў з дню аб'яўленьня гэтага азначэньня сьведцы ў тым выпадку, калі сьведка ня можа падаць скаргу разам з касацыйнай скаргай па сутнасьці пастановы па справе (арт. 249 ГПК).

9) Аб парадку разгляду працоўных спраў аб незаконным звальненьні, пры недасягненьні згоды ў РКК, Пленум растлумачыў:

Усе канфлікты, узьнікаючыя паміж старон з працоўных дагавораў як індывідуальныя, так і групавыя, у тым ліку і незаконныя звальненьні служачых, згодна паладжэньня аб РКК, зацьверджанага Наркампрацы з--18 Лістапада 1922 г. і Інструкцыі Наркампрацы СССР за 14 жніўня 1923 г. № 38 аб пристасаваньні палажэньня аб прымірыцельных камэрах і трацейскіх судоў разглядаюцца ў РКК. У выпадку недасягненьня згоды, справы гэтыя могуць быць

перадьдзенымі, калі прадстаўніком рабочых выступае профсаюз, у прымірыцельную камэру або трацэйскі суд, а пры непрыняцьці ўдзелу ў слуханьні справы профсаюзам, паказаныя канфлікты разьвязваюцца ў судовым парадку..

Канфлікты ў мясцовасьцях, якія знаходзяцца пад ведамам Райвыканкомаў, згодна п. 4 пастановы Наркомпрацы БССР за 8 студзеня 1925 г., вырашаюцца ў прымірыцельных камісіях пры Райвыканкомах, а пры адмове ад перадачы такіх канфліктаў у прымірыцельную камісію, ці пры недасягненьні з годы--ў судовым парадку.

Сэкратар Пленуму
**Абражэвіч.**

---

# Растлумачэньні аддзелу законадаўчых проэктаў НКЮ БССР.

## Аб выніках зыходу тэрмінаў паказаных у п. „в“ арт. 11 Палажэньня аб адміністрацыйных пакараньнях.

Аддзел Законадаўчых Проэктаў НКЮ растлумачвае, што па дакладнаму сэнсу п. „в“ § 11 Палажэньня аб парадку выданьня абавязковых пастаноў 10/VII—1925 г. (З. У. 1925 г. № 31, арт. 288) парушэньне абавязковых пастаноў і злычынствы, паказаныя ў § 14 таго-ж Палажэньня, ня могуць прасьледавацца і парушыцелі правоў вызваляюцца ад адказнасьці ў выпадках: а) калі справа аб такім парушыцелі правоў паднята па зыходу двух месяцаў ад дню яго ўчыненьня і б) калі справа аб парушэньні правоў, сваечасова паднятая заставалася не разгледжанай на працягу аднаго месяца ад дню яе падняцьця.

Пры гэтым трэба мець на ўвазе, што службовая асоба, у выніку бязьдзеяньня якой або нядбайных адносін да службы парушэньне правоў засталося без пакараньня, калі зышлі паказаныя вышэй тэрміны, належыць прыцягненьню да адказнасьці паводле арт. арт. 107 і 108 Крым. Код.

## Растлумачэньне па пытаньню, ці зьяўляюцца ўпаўнаважаныя Дзяржаўнага Выдавецтва службовымі асобамі.

На запытаньне Магілёўскага Акруговага Пракурора, Аддзел Законадаўчых Проэктаў НКЮ растлумачвае, што згодна ўвагі да арт. 105 Крым. Код. пад службовымі асобамі разумеюцца асобы, якія займаюць пастаянныя або часовыя пасады ў якой-небудзь дзяржаўнай установе або прадпрыемстве, а таксама ў організацыі або аб'яднаньні, маючым па закону поўныя правы, абавязкі і ўпаўнаважаньні для ажыцьцяўленьня гаспадарчых, адміністрацыйных, асьветных і іншых агульна-дзяржаўных задач.

Такім чынам пад разуменьне службовай асобы ў сэнсе паказанай увагі, падпадае ўсякі служачы ў паказаных установах, прадпрыемствах, організацыях і аб'яднаньнях, незалежна ад парадку назначэньня па абраньню, па дагавору асабовага найму, і незалежна ад формы аплаты—выкананьне абавязкаў—ці ў форме ўстаноўленага штатам утрыманьня, ці процантнага, або ў іншай форме платы.

Ясна, што ўпаўнаважаныя Дзяржаўнага Выдавецтва (С.У.—1924 г. № 18, арт. 162) не зьяўляецца пасрэднікамі, а лічацца на службе, і таму павінны падходзіць пад ра-

зуменьне службовай асобы ў сэнсе ўвагі да 105 арт. К. К. ў выпадку сумненьня ў адносінах кожнай канкрэтнай асобы належыць патрабаваць дакумэнт, які сьведчыў-бы яго ўзаемаадносіны з установай ці з прадпрыемствам.

## Растлумачэньне па пытаньню, ці дазваляюцца дагаворы гаспадарчага органу з рабочым, па якім рабочы часова згубіўшы працаздольнасьць на рабоце ў гаспадарчым органе атрымоўвае ад апошняга пэўную суму, пры чым рабочы адмаўляецца ад падняцьця перад судовымі органамі іску аб выплаце за даны выпадак.

Аддзел Законадаўчых Проэктаў на запытаньне Бабруйскай Дзяржаўнай Натарыяльнай Канторы тлумачыць, што зьдзелкі, якія носяць характар, паказаны ў гэтым запытаньні, ня могуць мець месца ў тых выпадках, калі рабочыя належаць да груп, падлягаючых сацыяльнаму страхаваньню. У такіх выпадках рабочы, згубіўшы працаздольнасьць, атрымоўвае здавальненьне ад органу сацыяльнага страхаваньня (арт. 412 Гр. Код.).

Што тычыцца лесазагатавіцялей Лесбелу, то ўсе яны, за выключэньнем лесарубаў і возчыкаў, якія працуюць на сваіх конях і атрадамі, падлягаюць сацыяльнаму страхаваньню, а таму і паводле 412 і 413 арт. арт. Грам. Код. плату за страту працаздольнасьці яны павінны атрымоўваць не ад Лесбелу, а ад органу сацыяльнага страхаваньня.

У асобую групу вылучаюцца лесарубы і возчыкі, якія працуюць на сваіх конях і атрадамі, а таксама якія выконваюць работы на малевым сплаве. Паводле абежніка НКЮ за 4-га ліпеня 1923 году № 259/53 гэта група лесазагатавіцеляў сацыяльнаму страхаваньню не падлягае; а дзеля гэтага і згодна пастановы НКП БССР за 10/XI 1925 г. і прыкладзенага да яго тыповага дагавору, лесазагатавіцелі гэтай групы ў выпадку страты імі працаздольнасьці, атрымоўваюць ад гаспадарчага органу адначасовую плату ў размеры, устаноўленым па згодзе гаспадарчага органу з адпаведным органам профэсыянальнага саюзу, згодна нормаў сацыяльнага страхаваньня.

Маючы права патрабаваць узнагароды непасрэдна ад гаспадарчых органаў, лесарубы і возчыкі, якія працуюць на сваіх конях і атрадамі, а таксама выконваюць работы на малявым сплаве, могуць уваходзіць з гаспадарчымі органамі ў дагаворныя адносіны пры абавязковай умове, каб разьмер платы быў устаноўлены пры ўдзеле адпаведнага органу прафсаюзу па норме сацыяльнага страхаваньня.

Пры паказаных умовах такія дагаворы не супярэчаць закону, уключэньне-ж у іх абмоўкі працоўнага, які атрымоўвае плату за страту працаздольнасьці аб адмаўленьні ад права зьвярнуцца ў суд; ня мае сілы паводле арт. 2 Грам. Код.

## Растлумачэньне аб праве асоб, якія знаходзяцца на службе, атрымоўваць пэрсональную пэнсію.

На запытаньне Народнага Камісарыяту Грашовых Спраў Аддзел Законадаўчых Проэктаў растлумачвае, што пэрсональныя пэнсіі назначаюцца на падставе палажэньня аб дзяржаўным забесьпячэньні непрацаздольных (З. З.—1925 г. № 45, арт. 365) асобам, маючым выключныя заслугі перад Рэспублікай, і ўстанаўляюцца ў межах да падвоеннай вышэйшай тарыфнай сеткі БССР, у залежнасьці ад сту-

пені і характару выключных заслуг, ступені страты працаздольнасьці, колькасьці непрацаздольных членаў сям'і, знаходзячыхся на яго ўтрыманьні, стану здароўя патрабуючых дапамогі і на огул усей злучнасьці акалічнасьцяў у кожным паасобным выпадку, пры чым пэнсіі гэтыя назначаюцца ў асобным парадку, паказаным у арт.47.

Паколькі такім чынам, пэрсанальныя пэнсіі прызначаюцца хоць і для матар'яльнага забесьпячэньня пэнсыянэра, аднак, яны маюць на ўвазе выключныя заслугі яго перад Рэспублікай, то знаходжэньне такой асобы на службе само па сабе ня можа пазбавіць яе права на пэнсію.

Зьмены разьмеру пэрсанальнай пэнсіі (ці пазбаўленьне пэнсіі) ў залежнасьці ад зьмен матар'яльнага становішча пэнсыянэра і іншых умоў адносіцца да выключнай компэтэнцыі Міжведамственай Камісіі па назначэньню пэнсі і дапамогі пры Народным Камісарыяце Забясьпекі.

## Аб дазволе ўезду ў мясцовасьць, з якое высланы асуджаны.

Па запытаньню Пракурора Менскай акругі Аддзел Законадаўчых Проэктаў НКЮ растлумачвае, што прысуд аб высылцы з данай мясцовасьці, як і кожны прысуд, павінен быць дакладна выкананы. Дзеля гэтага, калі тая альбо іншая асоба, згодна з прысудам выслана з данай мясьцовасьці, яна ня можа зьяўляцца ў гэтыя мясцовасьці нават часова. Ніякія выняткі ў даным выпадку законамі не прадугледжаны і ў паасобку, закон аб дачы адпускоў з месц зьняволеньня на палявыя работы тэрмінова-зьняволеным сялянам адносіцца выключна да зьняволеных і зусім не датычыцца высланых.

Такім чынам одпуск высланаму ў тую мясцовасьць, з якой ён выслан, для палявых работ, ня можа быць дазволен.

## Па пытаньню аб праве адміністрацыйных органаў накладаць адміністрацыйныя пакараньні за парушэньне пастаноў цэнтральных устаноў, калі па іх ня выдана абавязковых пастаноў, і як рабіць са справамі, па якіх прапушчан месячны тэрмін для разгляду.

Народны Камісарыят Юстыцыі па Аддзелу Законадаўчых Проэктаў на запытаньне Слуцкага Акруговага Выканаўчага Камітэту растлумачвае: што, калі ў пастановах цэнтральных устаноў прадугледжана, што за парушэньне гэтай пастановы накладваецца адміністрацыйнае пакараньне (прыклад: С. У. 1924 г. № 5 арт. 61 і № 8 арт. 93), то гэтае пакараньне накладаецца адпаведнымі ўстановамі і ў тым выпадку, калі ня было выдана абавязковай пастановы.

Адміністрацыйнае пакараньне акладаецца ў парадку прадугледжаным палажэньнем за 10/VII—1925 г. (З. З. 1925 г. № 31 арт. 288).

2) Калі ад дня падняцьця справы (складаньне пратаколу), якая караецца ў адміністрацыным парадку, ня было ў месячны тэрмін складзена пастановы аб адміністрацыйным пакараньні, то справа аб накладаньні пакараньня спыняецца і парушыцель звальняецца ад гэтай справы.

Службовыя асобы, праз бязьдзейнасьць, або нядбайнасьць якіх правапарушэньне засталося непакараным, павінны карацца ў адміністрацыйным парадку, а ў адпаведных выпадках—у крымінальным (арт. арт. 105, 107 і 108 Крым. Код).

## Па пытаньню аб кватэрнай плаце з работнікаў паяздных брыгад.

Аддзел Законадаўчых Проэктаў НКЮ на запытаньне Праўленьня Віцебскага Акруговага Саюзу жылішчнае коопэрацыі растлумачвае, што, паводле арт. 18 пастановы СНК БССР за 10 жніўня 1923 г. аб аплаце камандыровак і перамяшчэньні супрацоўнікаў дзяржаўных устаноў і прадпрыемстваў, разьезды асоб, работа якіх па самой істоце сваёй зьвязана з пастаяннымі разьездамі ў межах вызначанага вучастку ці раёну, камандыроўкамі ня лічацца і сутачнымі не аплачваюцца, пры чым разьмер заработнае платы такіх супрацоўнікаў павінен быць, калі гэта не прадугледжана колектыўным дагаворам, адпаведна павялічан (З. З. БССР 1923 г. № 15—15 арт. 138).

З паказанага вынікае, што паверстная плата, што атрымоўваецца работнікамі паяздных брыгад, работа якіх па самай сваёй істоце зьвязана з пастаяннымі разьездамі ў межах вызначанага раёну чыгуначай лініі, павінна лічыцца не прэміяльнай або сутачнай платай, а галоўнай часткай заработнай платы і дзеля гэтага павінна брацца пад увагу пры вылічэньні кватэрнай платы. У такім іменна сэнсе выказаліся па паднятым пытаньні як тарыфна-канфліктны Аддзел Наркампрацы БССР, так і ЦСПСБ ў сваіх паведамленьнях на запытаньне Аддзелу Законадаўчых Проэктаў. Пры гэтым ЦСПСБ выходзіць з таго меркаваньня, што па гэнэральнаму колектыўнаму дагавору НКШЗ і ЦК Чыгуначнікаў для паравозных і паяздных брыгад устаноўлена часова—зьдзельная (зьмешаная) сыстэма аплаты працы: звыш асноўнай тарыфнай стаўкі па кваліфікацыі яны атрымоўваюць паверстныя, пачынаючы з першай вярсты па расцэнцы, вызначаемай шляхам дзяленьня адпаведнага проценту тарыфнай стаўкі прабегу.

---

# Практыка Асобае Калегіі Вышэйшага Кантролю па зямельных справах.

Рэдакцыйная Калегія Бюлетэню Савету Народных Камісараў БССР даручыла Асобай Калегіі Вышэйшага Кантролю растлумачыць пытаньне Абалецкага сельсавету, Аршанскае акругі наступнага зьместу:

„Хто ў першую чаргу пры землеўпарадкаваньні надзяляецца зямлёю—зусім бедныя гаспадаркі беззямельнікаў, ці гандляры і арандатары млыноў, якія маюць зямельныя вучасткі ад $1/2$ да 2 дзесяцін“.

Разгледзеўшы гэтае пытаньне ў распарадчым пасяджэньні 11 кастрычніка 1926 г., Асобая Калегія-ў журнале сваім № 17 растлумачыла

„На моцы арт. 10 Зям. Код. ў час земляўпарадкаваньня безьзямельнае працоўнае сялянскае насельніцтва надзяляецца зямлёю са складу дзяржаўнага запаснага фонду пераважана перад малазямельным насельніцтвам. Калі асноўным заняцьцем удзельніка землеўпарадкаваньня зьяўляецца саматужны ці рамесны промысел, альбо дробны гандаль, пры землеўпарадкаваньні яму пакідаецца быўшая ў яго карыстаньні зямля ў якасьці сядзібнага вучастку, які па магчымасьці павінен адводзіцца ў мяжы сядзібных зямель вёскі, а калі ў саматужніка зусім ня было зямлі, ён надзяляецца сядзібай. З другога боку, і працоўныя земляробчыя гаспадаркі могуць мець дапаможныя заняткі ў відзе дробнага гандлю, рамесных і саматужных промыслаў, прычым заняткі гэтыя па сэнсу Зям. Код. не пазбаўляюць іх праў працоўнага землякарыстаньня. Для чаго гэтыя гаспа-

даркі маюць права на атрыманьне зямлі ў парадку вызначанай чаргі

2. Менская акруговая зямельная камісія і Мсьціслаўскі райвыканком зьвярнуліся ў Асобую Калегію з запытаньнем аб растлумачэньні ў якім парадку на падставе 15 арт. Зям. Код. належыць надзяляць паасобных грамадзян зямлёй пасьля скасаваньня распарадчых пасяджэньняў у раённых зямельных камісіях.

Разглядзеўшы гэтыя пытаньні ў распарадчых пасяджаньнях 16 кастрычніка 1925 г. 6 сакавіка 1926 г., Асобая Калегія ў журналах сваіх № 1 і 4 растлумачыла:

„Калі надзяленьне зямлёй са складу грамадзкага запасу робіцца ў парадку скарочанага земляўпарадкаваньня, пры якім падрыхтоўка зьліваецца з выкананьнем, то работу гэтую выконвае старшыня сельсавету. Ён складае проэкт разьмеркаваньня зямлі сярод грамадзян таго-ж зямельнага вобчаства і падае сходу. Па скончэньні 2 тдняў з дню падачы проэкту ўся справа з паступіўшымі скаргамі накіроўваецца ў райземкамісію“.

3. Бялынкавіцкая райземкамісія прасіла растлумачыць наступнае пытаньне:

„У 1923 г. пры земляўпарадкаваньні са складу зямельнае грамады выдзялілася частка двароў і ўтварыла 2 пасёлкі і хутар. Пры складаньні земляўпарадчага проэкту ў лік выдзяліўшыхся неправільна ўключана было некалькі памершых да таго часу едакоў, а таксама выехаўшых з гэтага зямельнага вобчаства. Такія-ж зьмены ў складзе выдезяліўшыся двароў былі і пасьля зацьверджаньня земляўпарадчага праэкту. У цяперашні час ад групы двароў, у складзе якіх зьявіліся новыя едакі ў выніку шлюбаў і нараджэньняў, паступаюць заявы аб адабраньні зямлі ад выбыўшых і надзяленьні ёю прыбыўшых едакоў. Для таго, што земляўпарадчы проэкт увашоў у законную сілу зямельная камісія росіць растлумачыць, што трэба рабіць у гэтым выпадку“.

Асобая калегія, разгледзеўшы гэтае пытаньне ў распарадчым пасед жаньні 12 кастрычніка 1926 г. ў журнале сваім № 19 растлумачыла:

„Пры падворным парадку землекарыстаньня выход некаторых членаў са складу двара па сэнсу 16 арт. Зям. Код. не дае падставў для адабраньні зямлі ад двара, таму што зямля знаходзіцца ў агульным карыстаньні ўсіх астатніх членаў двара незалежна ад ліку іх. Апрача таго двары, якія земляўпарадакаваны пры Савецкай уладзе, застаюцца пры існуючым земляўпарадкаваньні незалежна ад яго разьмераў. Для гэтага да вызначаных двароў не ўжываецца зьніжэньне зямлі ў выпадку выхаду з іх складу часткі членаў. Што-ж тычацца дапушчаных пры земляўпарадкаваньні ў 1923 г. няправільнасьцяй у вылічэньні едакоў у тэй групе двароў, якая выдзелілася з вобчаства, то паколькі земляўпарадчы проэкт зацьверджаны ўсімі інстанцыямі і прыведзены ў выкананьне, перагляд справы можа быць зроблены толькі ў парадку і пры наліччы падстаў, якія вызначаны ў 181—183 арт. інструкцыі аб парадку разгляду спраў зямельнымі камісіямі“.

4. У практыцы Асобае Калегіі паўстала наступнае пытаньне:

„Калі член двара, які выбыў на працоўныя заробкі, пазбаўляецца права быць членам гэтага двара, калі з апошняга ён ня вышоў ў законным парадку. Ці пазбаўляецца ён у гэтым выпадку таксама і права на маемасьць двара“.

Разгледзеўшы гэтае пытаньне ў распарадчым пасяджэньні 20 сакавіка, Асобая Калегія ў журнале сваім № 6 растлумачыла:

„Член двара, які вышаў на працоўныя заробкі і ня прымаў у працягу двух севазваротаў удзелу ні працай сваей, ні сродкамі ў вядзеньні агульнае гаспадаркі, на моцы 16 арт. Зям. Код. перастае быць членам двара і траціць для гэтага права на зямлю і іншую маемасьць двара“.

# Хроніка.

## ЗАКОНАДАЎЧАЯ ХРОНІКА.

### Перавыданьне Грамадзянскага Кодэксу.

Пастановай ЦВК БССР за 2 лютага 1923 году на ўсей тэрыторыі БССР уведзен у сілу Грамадзянскі Кодэкс РСФСР з сакавіка месяца 1923 году.

Такім чынам 1-га сакавіка 1923 году БССР мае Грамадзянскі Кодэкс, які за час яго існаваньня пацярпеў цэлы шэраг зьмен, выкліканых як наогул мясцовымі ўмовамі, так і тымі зьменамі, якія ў гэты пэрыяд адбыліся ў законадаўстве Беларусі і Саюзу.

Усе гэтыя зьмены раскіданы ў паасобных нумарах Зборніку Законаў, што вельмі абцяжарвае карыстаньне Грамадзянскім Кодэксам БССР. Праўда, на дапамогу Гр. Код. у 1925 годзе была выдана Законадаўчым Аддзелам Н. К. Ю. спэцыяльная кніжка, дзе зьведзены ўсе новыя артыкулы Кодэксу, у тым ліку і Гр. Код., да 1-га жніўня 1925 г.

Але з 1-га жніўня многа артыкулаў Гр. Код. зноў зьменены, і апроч таго зусім вышаў з прадажы Зборнік Кодэксаў 1923 году, у якім зьмешчан асноўны тэкст Грам. Кодэксу БССР. Такім чынам перавыданьне Гр. Код. зьяўляецца канечна патрэбным.

Прыступіўшы да падрыхтоўкі Гр. Код. да новага выданьня, Аддзел Законадаўчых Проэктаў ня мог абмежавацца ўключэньнем у Грамадзянскі Кодэкс тых зьмен, якія ўжо прайшлі ў законадаўчым парадку, а павінен быў скласьці яшчэ некалькі проэктаў аб зьменах і дадатках Грамадзянскага Кодэксу для ўзгадненьня яго з іншым законадаўствам.

Так, напрыклад, уводзяцца зьмены ў адпаведныя артыкулы Грамадзянскага Кодэксу ў сувязі з проэктаваным новым палажэньнем аб дзяржаўным натарыяце БССР.

Зусім пераапрацованы артыкулы 69 і 70 аб рэквізыцыі і конфіскацыі, прычым нанава таксама складзен проэкт правілаў аб парадку рэквізыцыі і конфіскацыі. Зусім пераапрацованы правілы аб бяз весьці адсутных, Н. К. Ю. падаў проэкт уключыць гэтыя правілы, як маючыя процэсуальна—праўны характар у ГПК, (новы разьдзел 27—б), у сувязі з гэтым прышлося зьмяніць некалькі і зьмест артыкула 12 Гр. Код., устанаўляючага вынікі прызнаньня асобы бяз весьці прапаўшай.

З прычыны вынікшай у сілу закону за 29/I—1926 году адмены абмежаваньня разьмеру маемасьці, маючай пераходзіць у парадку спадчыны, зьменена некалькі артыкулаў права аб спадчыне (138, 416, 419,—422).

З больш ці менш буйных зьмен Гр. Код., якія намечаны НКЮ, трэба адзначыць арт. 101 і 137, г. зн. пытаньні: 1) аб спагнэньнях закладзенай маемасьці, маючых перавагу перад прэтэнзіяй залогатрымальніка, і 2) аб тых зьдзелках, для якіх абавязкова натарыяльнае засьведчаньне. Гэтыя пытаньні сур‘ёзныя, патрабуючыя дасканальнага ўзгадненьня з іншымі законамі, чаму для іх ня лёгка знайсьці ўпаўне здавальняючую рэдакцыю, і гэта некалькі затрымоўвае зьмену паказаных артыкулаў.

Нарэшце, выданыя яшчэ ў 1923 годзе правілы аб куплі-прадажы ў розьніцу на раты, уключаюцца ў самы тэкст Грамадзянскага Кодэксу некалькі зьмененымі.

## Перавыданьне Грамадзянска-Працэсуальнага Кодэксу.

НКЮ падрыхтаваў і ўнес у заканадаўчыя органы Грамаўзянска-Працэсуальны Кодэкс з усімі зьменамі, якія былі зроблены ў паасобных артыкулах Кодэксу за час увядзеньня яго ў дзейнасьць, г. зн. ад 1923 году. Для ўзгадненьня кодэксу з найноўшымі праўнымі нормамі, у яго ўнесены яшчэ шэраг зьмен і дадаткаў, з якіх выдзяляюцца: а) новыя артыкулы аб парадку правядзеньня ў выканаьне рашэньняў Арбітражных Камісіі пры таварных біржах б) правілы разгляду спраў аб звальненьні ад вайсковай службы па рэлігійных перакананьнях; в/ парадак справавядзеньня па аднаўленьні праў па згубленых дакумэнтах на прад'яўніка (так званае пазыўное справавядзеньне), г) артыктлы 254. 254—а і 254—б,—гэтымі артыкуламі Пракурору Рэспублікі і яго памочніку належыць права вытрабаваць з любога суду Рэспублікі для перагляду ўсякую вырашаную справу, пры чым ён мае права прыпыніць выкананьне рашэньня.

Акруговыя Пракуроры, ў межах акругі таксама маюць права вытрабаваць і перагледзець вырашаныя справы; у выпадку неабходнасьці, яны могуць прасіць Пракурора Рэспублікі аб прыпыненьні выкананьня рашэньняў.

Протэсты на вырашаныя справы падаюцца ў Найвышэйшы Суд на працягу аднаго году ад дню ўваходжаньня рашэньня ў законную сілу і разглядаюцца Грамадзянска—Касацыйнай Калегіяй, а, ў выпадку нязгоды Пракурора Рэспублікі з яе рашэньнем, у Пленум Найвышшага Суду; д) парадак разгледжэньня спраў аб прызнаньні асоб загінуўшымі бяз весьці.

Кодэкс будзе выданы на беларускай і расійскай мовах.

---

## Перапрацоўка Асаблівай Часткі Крымінальнага Кодэксу.

У Аддзеле Законадаўчых Проэктаў НКЮ закончваецца перапрацоўка асаблівай часткі Крымінальнага Кодэксу. Проэкт адрозьніваецца ад дзеючай асаблівай часткі К. К. наступным:

1) у адпаведнасьці з агульнасаюзным законадаўствам зьменены некаторыя артыкулы і ўведзены новыя: так, зьменены артыкулы 81—81-д у зьвязку з выданьнем у 1925 годзе закону аб абавязковай ваеннай службе, артыкул. 139—а зьменен згодна з законам 1925 г. аб пакараньнях за парушэньні пастаноў аб акцызах і аб асобым патэнтным зборы, арт. 198 у зьвязку з выданьнем законаў аб патэнтах на вынаходкі і аб аўтарскім праве: уведзены новыя артыкулы аб адказнасьці за незаконнае карыстаньне для атрыманьня якіх-небудзь выгад значкамі і назвамі Чырвонага Крыжу і Чырвонага Паўмесяцу, якія ўстаноўлены міжнароднай конвэнцыяй у Жаневе 1926 г., аб адказнасьці за нашэньне гэтых значкоў, аб адказнасьці за парушэньне правілаў аб радыё-станцыях прыватнага карыстаньня, аб адказнасьці за парушэньне галажэньня 1924 г. аб мерах і ваях;

2) перарадагаваны некаторыя арт арт., як напрыклад, радакцы арт.. арт. 128, 129 Крым. Код. зьменена ў сэнсе пашырэньня іх на бесгаспадарчае вядзеньне справы і расітрачваньне маемасьці ва ўстановах прадпрыемствах грамадзкіх і коопэрацыйных; 3) у адпаведнасьці з галоўнымі асновамі Крымінальнага Законадаўства Саюзу ССР і саюзных рэспублік, па злачынствах, не пагражаючых асновам савецкаму ладу, паніжаны санкцыі; 4) выключаны арт. арт. 126, 127 і 1 частка 131, з аднаго боку—як устарэлыя, а з другога—таму, што прадугледжаныя імі злачынствы, падпадаюць пад іншыя артыкулы Крымінальнага Кодэксу.

Апроч гэтага маюць быць зроб-

лены некаторыя зьмены сыстэмы асаблівай часткі Крымінальнага Кодэксу ў сэнсе іншага разьмяшчэньня некаторых артыкулаў па разьдзелах: арт. 119 пераносіцца ў часьць першую і разьдзелу першага аб контррэвалюцыйных злачынствах, некатарыя артыкулы, зьмешчаныя цяпер ўліку артыкулаў аб злачынствах гаспадарчых, маемасных, і ў главе VIII, пераносяцца ў разьдзел 2-гі главы першай—аб злачынствах супроць парадку кіраўніцтва. У сувязі з гэтым, а таксама з прычыны ўвядзеньня некаторых новых артыкулаў зьмяняецца нумарацыя арт. арт. асаблівай часткі.

---

## Проэкт зьмены артыкулу 108 К. П. К.

Аддзелам Законадаўчых Проэктаў распрацован і накіраван у Законадаўчыя органы проэкт зьмены арт. 108 КПК. Згодна гэтаму проэкту правядзеньня папярэдняга сьледзтва абавязкова па ўсіх крымінальных справах, падсудных Акруговым Судомі Найвышэйшаму Суду БССР. Правіла гэта ўводзіцца ў адпаведнасьці з арт. 8 асноў крымінальнага суда вядзеньня Саюзу ССР і саюзных рэспублік.

У адносінах спраў, падсудных народным судом, абавязковасьць папярэдняга сьледзтва ўстанаўляецца проэктам толькі для спраў аб злачынствах, прадугледжаных арт. 81—г, 129, 143,—146, 148; 1 ч. 149 і 179 К. К.

Такім чынам круг спраў, патрабуючых абавязковага правядзеньня папярэдняга сьледзтва, значна абмяжоўваецца.

---

## Правілы аб высяленьні.

1. Для аб'яднаньня паасобных законаў па пытаньнях, належачых да жылішча (З. З. БССР 1923 г. № 15—16, 133, 1925 г. № 21 арт. 195, № 43 арт. 354, 1926 г. 8 арт. 33) НКЮ распрацован і прыняты КЗП проэкт пастановы аб умовах і парадку высяленьня грамадзян з займаемых імі жылішчаў.

Проэкт разьмяркоўваецца на чатыры разьдзелы, з якіх два спэцыяльных: а) аб высяленьні з казарменых жылішчаў, і б] высяленьні, якія знаходзяццаў паласе адчужэньня НКПС.

Пералічаныя два віды высяленьня, на практыцы сустракаюцца досыць рэдка, таму для большасьці насяленьня асаблівую цікавасьць маюць агульныя правілы аб высяленьні запісаныя ў I і IV разьдзелах проэктуемай пастановы.

У якасьці асноўнага палажэньня ўстанаўляецца, што высяленьне, за дакладна паказанымі ў законе выключэньнямі робіцца ў судовым парадку.

Жылец можа быць выселен у судовым парадку, калі ён па нядбайнасьці ці наў мысьня пагоршвае займаемую ім кватэру (напр. забруджваньне каналізацыі), калі ён выкарыстоўвае жылішча не па яго назначэньні, калі ён неакуратна робіць рамонт, або плаціць за жылішча, камун. услугі і г. д.

У судовым-жа парадку высяляюцца жыльцы, якія самавольна пасяліліся ў жылішчах, не ўваходсячых у жылішчнакамунальны фонд і, нарэшце, у выпадку патрэбы грунтоўнага рамонту жылішча.

У адміністрацыйным парадку высяленьне дазваляецца ў наступных выпадках:

1) з дамоў, замацованых дзяржаўнымі ўстановамі і прадпрыёмствамі, парт. і профорганамі (пры ўмове, што жылішча патрэбна усганове, ці прадпрыёмству для яго ўласных патрэб).

2) з самавольна занятых жылішчаў, якія складаюць асобныя фонды,

3) з дамоў, пагражаючых абвалам,

4) з гасьцінніц, інтэрнатаў і жылішчаў, якія даюцца дзяржаўнымі ўстановамі і прадпрыёмствамі сваім супрацоўнікам, наймальнікамі рабочым і служачым.

Далей устанаўліваецца падрабязныя ўмовы, пры якіх дазваляецца высяленьне і тэрміны,—а таксама ўсюды закон праводзіць клясавы прынцып.

---

## Палажэньне аб Дзяржаўным Натарыяце БССР.

14 мая б. г. была апублікована пастанова ЦВК і СНК БССР аб галоўных прынцыпах арганізацыі дзяржаўнага натарыяту (З. З. Саюзу ССР № 35—1926 г. арт.).

Гэтай пастановай значна зьмянілася ўся пабудова натарыяльнай чыннасьці, дзеля гэтага і ў сілу паказанай пастановы ўсе саюзныя рэспублікі, у тым ліку і БССР, прыступілі да пераапрацоўкі сваіх палажэньняў аб натарыяце.

Проэкт нашага палажэньня аб дзяржаўным натарыяце ўжо заслухан КЗП пры СНК і хутка, трэба думаць, стане законам.

Існуючы цяпер падзел на натарыяльныя дзеі і натарыяльныя засьведчаньні зьдзелак зьнішчаецца і замяняецца „Натарыяльным пасьведчаньнем зьдзелак“, у сувязі з гэтым і арт. 27 Гр. Код. проэктуецца запісаць так: „зьдзелкі могуць быць учынены на словах ці ў пісьмовай форме“.

Пісьмовыя зьдзелкі падзяляюцца на: 1) простыя, 2) натарыяльна-пасьвядчальныя.

Па проэктуемаму палажэньню ўжо ня будзе актавай кнігі, у якую акты запісваюцца цалкам, што надта абцяжарвае і затрымлівае працу. На далейшы час усякая зьдзелка, падлягаючая натарыяльнаму засьведчаньню, будзе пісацца ў некалькіх (ці ў крайнім выпадку ў двух экзэмплярах), і падпісвацца старанамі і пры чым усе экземпляры лічацца арыгіналамі. Два экзэмпляры выдаюцца старанам, адзін—аснаўны пакідаецца ў справах натарыяльнай канторы і далучаецца да раней учыненных актах. Спытыя разам, у парадку засьведчаньня, акты складаюць актавы зборнік.

---

## У КАМІСІІ ЗАКОНАДАЎЧЫХ ПРОЭКТАЎ ПРЫ САВЕЦЕ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ БССР.

На разглядзе Камісіі законадаўчых Проэктаў знаходзіцца цяпер больш за сорак законапроэктаў. У сучасны момант К. З. П. перапрацоўвае ўнесены Народным Камісарыятам Земляробства проэкт Водна-Мэліорацыйнага Кодэксу, зацьверджаньне якога стаіць у парадку дню бліжэйшае сэсіі Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту. Гэта будзе першы па часу Водна-Мэліорацыйны Кодэкс у Саюзе ССР. Неабходнасьць тэрмінова падрыхтаваць яго да сэсіі, якая адбудзецца 18 студзеня, прымусіла на кароткі час адкласьці разгляд проэкту новага палажэньня аб Народным Камісарыяце Земляробства, частку якога К. З. П. ужо разгледзела. Гэты проэкт унесены таксама Наркамземам разам з шэрагам проэктаў палажэньняў аб іншых зямельных органах: аб зямельных аддзелах акруговых выканаўчых камітэтаў, аб зямельных частках раённых выканаўчых камітэтаў, аб лясьніцтвах, аб Асобай Калегіі Вышэйшага Кантролю па Зямельных Справах, аб акруговых і раённых зямельных камісіях.

У зьвязку са стварэньнем замест Народнага Камісарыяту Унутранага Гандлю і Упаўнаважанага Народнага Камісарыяту Замежнага Гандлю СССР пры СНК БССР аднаго камісарыяту—Народнага Камісарыяту Замежнага і Унутранага Гандлю ў К. З. П. унесены проэкт палажэньня аб гэтым народным камісарыяце, а ў зьвязку з выдзяленьнем з сэкратарыятаў акруговых выканаўчых камітэтаў адміністрацыйных аддзелаў—проэкт палажэньня аб гэтых аддзелах.

Цэлы шэраг проэктаў паступіў у К. З. П. ад народнага Камісарыяту Асьветы, Да іх належаць: проэкты статутаў пэдагогічных

тэхнікумаў, профэсыянальна-тэхнічных школ, Вандроўнага Тэатру Цэнтральнае Камісіі па палепшаньні дабрабыту вучоных і проэкты пастаноў аб падняцьці кваліфікацыі, скончыўшых вышэйшыя школы, аб парадку прыёму і звальненьня пэдагогічнага пэрсоналу тэхнікумаў, аб зборах па галоўнай Управе па справах літаратуры і выдавецтваў.

Для таго што частка выдадзеных з 1920 году законаў скасавана, а частка зьменена пазьнейшымі пастановамі Ураду, паўстала неабходнасьць выдаць збор чынных законаў БССР. Каб выканаць гэтую задачу, Народны Камісарыят Юстыцыі распрацоўвае проэкт сыстэматызацыі заканадаўства за мінулыя гады. Проэкт сыстэматызацыі за 1922 і 1923 гады ўжо ўнесены ў К. З. П., і частка яго разгледжана.

Апроч памянёных, у К. З. П. знаходзяцца проэкты палажэньняў аб Экономічнай Нарадзе, аб архівах і шмат іншых законапроэктаў. Вялізарная большасьць гэтых проэктаў—распрацованыя паасобнымі ведамствамі БССР проэкты пастаноў Ураду БССР. Некалькі-ж з іх —проэкты пастаноў Ураду Саюзу ССР, распрацованыя ведамствамі СССР і прысланыя імі праз Сталае Прадстаўніцтва БССР у Маскве на заключэньне Беларускага Ураду.

---

# ЗАКОНАДАЎЧАЯ ДЗЕЙНАСЬЦЬ САЮЗУ ССР.

## Проэкты агульна-саюзных законаў у галіне крымінальнага заканадаўства.

У Аддзеле Законадаўчых Проэктаў разглядаліся ў парадку дачы заключэньняў проэкты пастановы ЦВК Саюзу ССР: 1) аб зьмене галоўных асноў крымінальнага заканадаўства Саюзу ССР і саюзных рэспублік і 2) аб дзяржаўных злачынствах. Першым проэктам уносіцца істотная зьмена арт. 3 галоўных асноў крымінальнага заканадаўства, пашыраючая права саюзных рэспублік у галіне вызначэньня паасобных відаў злачынстваў: у той час, як дзеючы артыкул III галоўных асноў адносіць вызначэньне ўсіх дзяржаўных злачынстваў, г. зн. злачынстваў контррэвалюцыйных, і ўсіх злачынстваў супроць парадку кіраўніцтва, да кампэтэнцыі Саюзнага Ураду, проэкт з ліку гэтай апошняй катэгорыі злачынстваў адносіць да компэтэнцыі Саюзнага Ураду толькі злачынствы асабліва небясьпечныя для Саюзу ССР.

У адпаведнасьці з такой зьменай арт. 3 галоўных асноў распрацован другі проэкт, які істотна адрозьніваецца ад дзеючага ў БССР Крымінальнага Кодэксу, па між іншым, наступным: у ім праведзена пабольшасьці злачынстваў зьніжэньне санкцый; неданясеньне аб контррэвалюцыйных злачынствах ахапляе ўсе злачынствы гэтага роду, а ня толькі некаторыя, як гэта прадугледжана дзеючым артыкулам 89 Кр. Код., і апроч гэтага прадугледжана неданясеньне аб некаторых важных злачынствах супроць парадку кіраўніцтва, прадугледжана прапаганда і агітацыя, накірованыя да падняцьця ня толькі нацыянальнай (арт. 83 дзеючага ў БССР Крым. Код.), але і рэлігійнай варожасьці, ўстанаўляецца адказнасьць за падборку і збыт у якасьці промыслу падробленай замежнай манэты. Да катэгорыі асобна для СССР небясьпеч-

ных злачынстваў супроць парадку кіраўніцтва аднесены (з некаторымі зьменамі), між іншым, злачынствы, прадугледжаныя артыкуламі, дзеючага К. К. 75, 76, 77, 83, 85; 1 часткі 97, 2 часткі 98, 136, 138, а таксама артыкуламі 81—а, 81—б, 81—в, 78, 80 (невыкананьне павінасьцяй), 81-е пры ўмовах учыненьня гэтых злачынстваў і пры гэтым па папярэдняму згавору.

## РАСПРОСТРАНЕНИЕ ЗЕМЕЛЬНОГО КОДЕКСА НА ПРИСОЕДИНЕННЫЕ ТЕРРИТОРИИ К БССР.

В связи с присоединением к БССР Гомельскаго и Речицкого уездов из состава РСФСР коллегия Народного Комиссариата Земледелия признала необходимым распространение на присоединенную территорию действия Земельного Кодекса БССР, как вполне соответствующего взаимоотношениям на означенной территории.

В виду этого Народным Комиссариатом Земледелия разработан и представлен в законодательные органы БССР проект постановления о распространении действия Земельного Кодекса БССР на территорию Гомелского и Речицкого округов.

В связи с вышеуказанным законопроектом тем же Народным Комиссариатом разработан и внесен в законодательные органы проект постановления о порядке окончания в пределах Гомельского и Речицкого округов землеустроительных и спорных земельных дел, начатых производством до срока распространения на эти округа действия Земельного Кодекса БССР.

Согласно этому последнему проекту законченные подготовкой и включенные в исполнительный план работ землеустроительные дела, по которым были разосланы повестки и землеустроитель выехал на место для приступа к производству землеустройства до введения в действие Земельного Кодэкса БССР, заканчиваются и рассматриваются земельными комиссиями по соответствующим нормам Земельного Кодекса РСФСР. Остальные же возникшие до вышеуказанного срока землеустроительные дела подготовляются по нормам Земельного Кодекса БССР, при чем в случае необходимости произвести переподготовку, последняя производится за счет казны.

Что касается спорных земельных дел, то они должны разрешаться по нормам Земельного Кодекса РСФСР, если они приняты земельными комиссиями до срока распространения действия Земельного Кодекса БССР.

Гомельская губернская Земельная Комиссия расформировывается. В Гомеле и Речице образуются окружные Комиссии.

Все дела, подсудные районным и окружным земельным комиссиям, а также восходящие на рассмотрение Особой Коллегии Высшего Контроля, рассмариваются с соблюдением процессуальных норм, действующих в БССР.

## ВЫПУСК СЛУХАЧОЎ ЮРЫДЫЧНЫХ КУРСАЎ НКЮ БССР.

16-га студзеня г. г. Народным Камісарыятам Юстыцыі адсьвяткаван першы выпуск курсантаў, скончыўшых 6-ці месячныя юрыдычныя курсы.

Усе скончыушыя курсанты разьмяркаваны па розным органам Юстыцыі і накірованы такім чынам: па Пракурорскай лініі—15, з іх:

Нам. Акруговых Пракурораў—2, вучастковымі Пам. Пракурорамі—7 і сьледчымі—6.

У судовыя органы—26 чал. з іх: на пасады нарсудзьдзяу—14, на пасады сэкратароў нарсудоў—6, на пасады сэкратара Акруговага Суду—1, на пасаду сэкратара калегіі Акруговага Суду—1, на пасаду судвыканаўцаў—2, і дзелаводаў нарсудоў—2.

У калегію абаронцаў накіроўваюцца—6 чал. і астатнія 13 чал. залічаюцца ў рэзэрв.

---

## У БЮРО ЮРЫСКОНСУЛЬТАЎ ВСНГ.

Адно з апошніх пасяджэньняў Бюро Юрысконсультаў дзяржаўнай прамысловасьці пры ВСНГ было прысьвечана, злободзённаму ў колах юрысконсультаў прамысловасьці, пытаньню па пераглядзе законадаўства аб трэстах.

На пасяджэньні за 27/X старшыня Бюро тав. Макуня азнаёміў прысутных таварышоў з асновамі проэкту агульнасаюзнага дэкрэту аб трэстах, унесенага ў СНК СССР.

Дакладчык адзначыў, што асноўнай адрозьніваючай рысай ад новага праэкту зьяўляецца прывядзеньне ў адзіную сыстэму дэкрэтаў аб трэстах і наданьне яму агульнасаюзнага характару.

Далей дакладчык затрымаўся на выключэньні з проэкту чыста эканамічных разуменьняў асноўнага і зваротнага капіталаў і падкрэсьліваньне таго прынцыпу, што ў аснове ўстаўнога капіталу ляжыць цэннае азначэньне маемаснай масы, пярэданай трэсту ВСНГ дзеля апэрацыйнай дзейнасьці і падкрэсьліў неабходнасьць у сувязі з гэтым ўнесьці адпаведныя дадаткі да 22 арт. Г. К,

У проэкце больш удакладнены з параўнаньню з дзейнічаючым законадаўствам правы і граніцы адказнасьці Праўленьняў Трэстаў і больш ясна акрэсьлена компэтэнцыя ВСНГ, як органу кіраваньня трэстамі, пры чым, па проэкце Праўленьню трэстамі даецца большаа слабода ў вядзеньні крэдытных опэрацыяў.

Новым у проэкце ў параўнаньні з дзейнічаючымі дэкрэтамі зьяўляецца вызначэньне компэтэнцыі кіраўнікоў паасобных установ, якія знаходзяцца ў складзе трэсту, пры чым ім дадзены правы апротэставаньня ў ВСНГ праз Праўленьне трэсту няправільных і немэтазгодных дзеяньняў яго.

Вельмі ўдалымі зьяўляюцца артыкулы проэкту, якія акрэсьліваюць правы Рэвізыйных камісій і якія патрабуюць ад гэтых органаў ВСНГ у складзе трэсту ўзмацненьне дапамогі Праўленьням трэстаў у іх апэрацыйнай рабоце і адхіленьня ў сваіх узаемаадносінах з імі надмернага бюракратызму.

У разьдзеле аб разьмеркаваньні прыбытку адкінут прынцып дзеючага дэкрэт аб уключэньні амаль усяго прыбытку ў даход казны і высоўваецца патрэба утварэньня спэцыяльнага капіталу пашырэньня прадпрыемства. Для гэтай мэты прызначаецца да 40% чыстага прыбытку, часткаю ў форме выняцьця яго і зьмяшчэньня ў складзе агульнага фонду ва ўстановы доўгатэрміновага крэдытаваньня прамысловасьці, часткаю-ж у форме замацованых за даным трэстам доўгатэрміновых укладаў у тых-жа ўстановах. У сувязі з гэтым зьменшана на палову адлічэньне ў запасны капітал трэстаў мэтай гэтага вызначана толькі пакрыцьцё страт трэсту.

Клапоты аб павялічэньні капіталу пашырэньня прадпрыёмства, якія зьмянілі сабою клапоты аб аднаўленьні асноўнага капіталу, мела сваім адбіткам на ўнясеньні ў проэкт асобага артыкулу, які дае права ВСНГ абавязаць трэсты, зьмешчаць амортызацыйны капітал ва ўстановы доўгатэрміновага да крэдытаваньня.

Больш укладнена вызначэньне спэцыяльных капіталаў трэсту, у тым ліку капіталу паляпшэньня быту рабочых і служачых.

Паказаныя невядомыя дзеючым дэкрэтам аб трэстах палажэньні аб злучэньні, падзяленьні і вылучэньні трэстаў, пры чым у данным выпадку агалошан прынцып салідарнай адказнасьці трэстаў за даўгі трэцім асобам да моманту рэалізацыі.

У проэкцэ адзначаны асаблівасьці рэспубліканскіх і мясцовых трэстаў, на якія наогул пашыраюцца палажэньні агульнасаюзнага дэкрэту, пры гэтым прынят прынцып недапушчальнасьці без дазволу СНК СССР, якіх-нібудзь адступленьняў ад прынцыпаў агульнага дэкрэту.

Пасьля кароткіх спрэчак была прынята прапанова аб далейшай распрацоўцы ў форме дакладаў некаторых пытаньняў, выклікаемых проэктам (аб прыродзе амортызацыйнага капіталу, аб правох трэстаў, аб фондзе паляпшэньня быту рабочых і служачых і аб сьпісаньні безнадзеных даўгоў).

М

---

# ПРЫВІТАНЬНЕ РЭДКАЛЕГІІ „ВЕСЬЦІ НКЮ“.

Супрацоўнікі г. Віцебску ў сваёй штодзённай працы з моманту далучэньня Віцебшчыны да Беларускай ССР сталі адчуваць недахват пэрыядычнай літэратуры па пытаньнях права, якая-б адбівала спэцыяльна бытавыя ўмовы жыцьця нашай рэспублікі, адсюль досыць часта сустракалі і практычныя цяжкасьці ў сваёй штодзённай працы.

Праўда, выдаваемы НКЮ РСФСР „Еженедельник Советской Юстиции“ да некаторай ступені папоўніў гэты прабел, але ня зусім, бо ён зьяўляецца літэратурным органам хоць і роднай нам рэспублікі, але-ж ня нашай, у якім мы не знаходзім больш або менш поўнага высьвятленьня ўсіх тых пытаньняў, якія цікавяць нас.

Атрымаўшы зьвесткі аб замеры НКЮ Беларусі выдаваць штомесячна часопісь „Весьці НКЮ“ па пытаньнях тэорыі і практыкі права, мы шчыра вітаем гэта добрае пачынаньне, лічачы гэта выданьне ня толькі пажаданым, але і бязумоўна неабходным.

З праграмай штомесячніка мы зусім згодны.

Дзеля падтрыманьня рэгулярнана выхаду часопісі з друку мы абяцаем: папершае, сваё супрацоўніцтва ў часопісі і, падругое, асабістую падпіску на часопісь.

Акругови Суд Вітебску:
**Кудзельскі.**
**Пулькін.**
**Бадзевіч.**
**Сапожнікаў.**
**В. Гінзбург.**

---

# Афіцыйная частка.

## Цыркуляр Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

аб парадку разгледжаньня спраў аб хуліганстве, якія ўзьнікле да ўвядзеньня ў дзеяньне 176 арт. К. К. ў яго новай рэдакцыі і аб адказнасьці злачынцаў па гэтых справах.

*Усім Акруговым і Народным Судом.*

Па зьвестках, якія маюцца ў НКЮ, на мясцох, у зьвязку з апублікаваньнем у № 264 за 20-е лістапада г. г. газэты „Савецкая Беларусь" пастановы ЦВК і СНК БССР за 13 лістапада г. г. аб зьмене артыкулу 176 Крымінальнага Кодэксу, узьнікае пытаньне аб тым, у якім парадку павінны разгледжвацца справы аб хуліганстве, якія ўзьнікле да ўвядзеньня ў дзеяньне 176 арт. К. К. ў яго новай рэдакцыі і аб адказнасьці злачынцаў па гэтых справах.

З прычыны вышэйпамянёнага Народны Камісарыят Юстыцыі растлумачвае, што пры разьвязаньні гэтага пытаньня трэба мець на ўвазе артыкул 2-гі Крымінальнага Працэсуальнага Кодэксу, згодна якому злачыннасьць і пакаранасьць дзеяньня вызначаецца Крымінальным законам, які дзейнічаў у момант учыненьня злачынства, пры чым законы, якія адсоўваюць злачыннасьць учыненага дзеяньня або зьмякчаюць яго пакараннасьць, маюць узваротную сілу.

Прыймаючы пад увагу, што новая рэдакцыя 176 арт. К. К. устанаўляе болей цяжкую адказнасьць за тыя віды хуліганства, якія раней былі прадугледжаны 1-й і 2-й часткамі 176 арт. КК ў яго старой рэдакцыі, трэба прыйсьці да вываду, што дзеяньне новае рэдакцыі 176 арт. К.К. не пашыраецца на тыя злачынствы, якія ўчынены да ўвядзеньня ў дзеяньне новае рэдакцыі 176 арт. К. К. і што ўсе тыя злачынствы (выпадкі хуліганства), якія былі ўчынены да гэтага тэрміну, падлягаюць пад дзеяньне 176 арт. КК у яго старой рэдакцыі, як адносна вызначэньня складу ўчыненага дзеяньня, так і адносна адказнасьці за яго, і павінны разгледжвацца ў парадку, які быў прадугледжан раней, г. з., хуліганства, прадугледжанае 1-й ч. 176 арт. К. К. ў яго старой рэдакцыі,—у адміністрацыйным парадку, а хуліганства, прадугледжанае 2-й ч. 176 арт. К.К. ў тэй-жа рэдакцыі,—у судовым парадку, пры гэтым трэба мець на ўвазе, што, згодна сэнсу пастаноў Прэзыдыуму ЦВК за 24 мая 1922 году (З. З. 1922 г. № 1, арт. 2) і 29 студзеня 1926 году (газэта „Савецкая Беларусь" № 27 за 4 лютага 1926 г.), дэкрэты і пастановы ўрадавых органаў, апублікаваныя ў „Зборы Законаў і Загадаў Рабоча-Сялян-

скага Ураду БССР“ або ў газеце „Савецкая Беларусь“, уступаюць у законную сілу: у горадзе Менску—з дню апублікаваньня іх у вадным з гэтых органаў друку, а на мясцох—з дню атрыманьня адпаведнага нумару аднаго з гэтых друковых органаў Акруговым Выканаўчым Камітэтам, з якіх тэрмінаў у адпаведных акругах і ўступае ў законную сілу зноў уведзены арт. 176 К.К.

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі і Ст. Пам.
Пракурора Рэспублікі **Нямытых.**

За Загадч. Аддз. Судабудаўніцтва і Нагляду **Папоў.**

29 сьнежня 1926 г.
№ 156.

---

## Цыркуляр Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

аб парадку зварочваньня прыгавораў да выкананьня аб чырвонаармейцах і вайскоўцах са складу малодшых Начальнікаў Кадраў Рабоча-Сялянскае Чырвонае Арміі прысуджаных да накіраваньня ў штрафныя часьці.

*Усім Акруговым і Народным Судом.*

Згодна пастановы ЦВК і СНК БССР за 18 верасьня 1926 г. аб дапаўненьні ўвагаю арт. 34 і аб зьмене ўвагі да арт. 35 Крым. Код. (З. З. БССР 1926 г. № 40 арт. 146), вынесенай у адпаведнасьці з пастановаю ЦВК і СНК СССР за 5 сакавіка 1926 г. аб дапаўненьні і аб зьмене арт. арт. 18 і 19 галоўных асноў крымінальнага Заканадаўства Саюзу ССР і Саюзных Рэспублік (З. З. СССР 1926 г. № 15 арт. 6), чырвонаармейцы і вайскоўцы са складу малодшых Начальнікаў Кадраў Рабоча-Сялянскае Чырвонае Арміі, прысуджаныя належнымі судамі за вайсковыя або агульна-крымінальныя злачынствы да пазбаўленьня волі на тэрмін нябольш аднаго году бяз строгага абмежаваньня і без пазбаўленьня праў або да прымусовых работ без пазбаўленьня волі, у якім выпадку гэтыя апошнія замяняюцца ім пазбаўленьнем волі на час, роўны аднэй шостай, належачага да ўжываньня тэрміну прымусовых работ, павінны накіроўвацца ў штрафныя часьці.

З прычыны гэтага і ў адпаведнасьці з цыркулярам Народнага Камісарыяту па вайсковых і марскіх справах Саюзу ССР за 2 верасьня 1926 году за № 128 аб парадку накіраваньня асуджаных у штрафныя часьці, Народны Камісарыят Юстыцыі прапануе наступнае:

Пры зварочваньні ў парадку 455 арт. КПК, да выкананьня прыгавораў аб чырвонаармейцах і вайскоўцах са складу малодшых Начальнікаў Кадраў Рабоча-Сялянскае Чырвонае Арміі, прысуджаных у штрафныя часьці, копіі прыгавораў для выкананьня апошніх і накіраваньня асуджаных у штрафныя часьці павінны накіроўвацца: 1) у тых выпадках, калі месца раскватэраваньня вайсковай часьці або ўстановы, да складу якіх належыць асуджаны, месца знаходжэньня суду, які пастанавіў прыгавор, і месца штрафной часьці саў-

падаюць,—у адпаведную вайсковую часьць або ўстанову і 2) ува ўсіх іншых выпадках—Начальніку Тэрыторыяльнага Кіраўніцтва або Акруговаму Вайсковаму Камісарыяту, пры чым у тым выпадку, калі асуджаны, прыгавор аб якім зварочваецца да выкананьня, знаходзіўся да ўступленьня прыгавору ў законную сілу ў агульным месцы зьняволеньня і там знаходзіцца ў момант зварочваньня прыгавору да выкананьня, копія прыгавору павінна накіроўвацца Начальніку Месца зьняволеньня з прапановай аб перадачы асуджанага разам з копіяй прыгавору, згодна вышэйпаказанага парадку, у распараджэньне вайсковай часьці ці ўстановы, да складу якіх асуджаны належыць або Начальніку Тэркіраўніцтва ці Акруговаму Вайсковаму Камісарыяту для накіраваньня асуджанага ў штрафную часьць згодна правіл вышэйпамянёнага цыркуляру Народнага Камісарыяту Вайсковых і марскіх спраў СССР за № 128.

Народны Камісар Юстыцыі і Пракурор Рэспублікі **Сегаль.**

Член Колегіі НКЮ і Загадч. АДДЗ. Судабудаўніцтва
і Нагляду **Эднэрал.**

22 сьнежня 1926 г.
№ 153

---

## Цыркуляр Народнага Камісарыяту Юстыцыі.

Аб зьмене тэрмінаў складаньня інструкцыйных лістоў і характэрыстык Нарсудзьдзяў, устаноўленых цыркулярам НКЮ за 15-га мая 1926 г. за № 62, і аб мерах, якія належыць прыймаць на падставе гэтых характэрыстык.

*Усім Округовым Судом.*

У мэтах палягчэньня працы Акрсудоў па распрацоўцы касацыйнага матэр'ялу і прастаўленьня Акрсудом магчымасьці на падставе болшае колькасьці гэтага матар'ялу больш грунтоўна складаць інструкцыўныя лісты і харатэрыстыкі Нарсудзьяў, якія Акрсуды павінны распрацоўваць, згодна цыркуляру НКЮ за 15 мая 1926 г. за № 62, а таксама ў мэтах поўнага скарыстаньня складзеных характэрыстык для падняцьця кваліфікацыі Нарсудзьдзяў, Народны Камісарыят Юстыцыі прапануе наступнае:

1) У зьмену цыркуляру НКЮ за 15 мая 1926 г. за № 62 складаньне інструкцыйных лістоў і характэрыстык Нарсудзьдзяў на падставе касацыйнага матар'ялу, пачынаючы з 1927 г. вытвараць не па кварталах году, а па паўгодках.

2) Пры складаньні характэрыстыкі і адпаведнага заключэньня аб ступені арыентыроўкі ў існуючым законадаўстве таго або іншага Нарсудздзьдзі строга выяўляць усе яго памылкі, а таксама і прычыны іх утварэньня, прычым у тых выпадках, калі гэтымі прычынамі зьяўляецца нядабайнасьць, прыцягваць яго да належнай адказнасьці.

3) Ува ўсіх выпадках, калі пры складаньні характэрыстык Нарсудзьдзяў, ці пры іншых акалічнасьцях выявіцца, што той або іншы

Народны Судзьдзя, які ўжо раней быў апытаны спробнай Камісіяй Акрсуду, нездвальняюча ведае тую або іншую галіну права, унасіць на абмеркаваньне Пленуму Акрсуду, на падставе пункту 3-га цыркуляру НКЮ 1925 г. за № 95, пытаньне аб прызначэньні гэтаму Нарсудзьдзі паўторнага апросу ў тых галінах права, у якіх веды яго палічаны Акрсудом нездавальняючымі з прадстаўленьнем яму адпаведнага тэрміну на падрыхтоўку і з папярэджваньнем яго аб выніках прадугледжаных п. п. 4 і 5 вышэйпамянёнага цыркуляру НКЮ за № 95.

Народны Камісар Юстыцыі
і Пракурор Рэспублікі **Сегаль.**

Член Калегіі НКЮ і Загадчык Аддзелу
Судабудаўніцтва і Нагляду **Эднэрал.**

11 студзеня 1927 г.
№ 2.

---

## Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі і Народнага Камісарыяту Ўнутраных Спраў

аб дапамозе ўстановам сельска-гаспад. крэдыту і сел. гасп. коопэрацыі ў справе спагнаньня неадданых у тэрмін пазычак.

*Акруговым Выканаўчым Камітэтам, Акруговым Пракурорам і Акруговым Судом.*

Рост і разьвіцьцё сельскае гаспадаркі ў значнай меры залежыць ад правільнай дзейнасьці сыстэмы сельска-гаспадарчага крэдыту і сельска-гаспадарчае коопэрацыі.

Між тым сума пратэрмінавых пазык па аднэй толькі сыстэме сельска-гаспадарчага крэдыту складаецца ў 400.000 руб., што складае да 10% к астачы пазык, якія лічацца за насельніцтвам.

Установы сельска-гаспадарчага крэдыту і сельска-гаспадарчай коопэрацыі, каб падняць дысцыпліну сярод свае кліентуры, зрабілі шэраг захадаў для змаганьня з неаплатай у тэрмін пазычак.

Для тэрміновага ліквідаваньня завінавачанасьці па пазычках ЦВК і СНК БССР сваёй пастановай за 16 студзеня 1925 г. (З. З. БССР 1925 г. № 7, арт. 44) далі ўстановам дробнага крэдыту права спаганяць з даўжніка і іх паручыцеляў няўнесеныя ў тэрмін пазычкі спрошчаным спосабам у парадку судовага загаду.

Аднак матар'ялы з месц сьведчаць аб ня вельмі ўважлівых адносінах мясцовых органаў улады да ўстаноў сельска-гаспадарчага крэдыту і да сельска-гаспадарчай коопэрацыі ў справе спагнаньня імі ня ўнесеных у тэрмін пазычак.

Апроч таго, як выявілася на практыцы, перашкодаю ў правільным вядзеньні працы крэдытных коопэратываў, таксама зьяўляецца і адміністрацыйнае ўмешваньне ў іх опэрацыйную дзейнасьць, якое часта ўцягвае коопэратывы ў нявыгодныя і рызыкоўныя опэрацыі, прыводзячыя вельмі часта крэдытныя коопэратывы да вялікіх страт.

Зьвяртаючы ўвагу Акруговых Выканаўчых Камітэтаў, Акруговай Пракуратуры і Народных Судоў на дзяржаўнае значэньне гэтага пытаньня, НКЮ і НКУС прапануюць наступнае:

1) Энэргічна дапамагаць установам сельска-гаспадарчага крэдыту і сельска-гаспадарчай коопэрацыі пры спагнаньні ня зьвернутых у тэрмін пазычак.

2) Нарсудом неадкладна выдаваць судовыя загады, недапушчаць адтэрмінаваньня і растэрмінаваньня і прызначыць тэрмін выкананьня ня больш сямі дзён ад уручэньня абвесткі аб выкананьні.

3) Сачыць за выкананьнем органамі міліцыі тэрмінаў спагнаньня, якія ўстаноўлены законам і пастановамі Нарсудоў.

4) Сачыць, каб прадстаўнікі мясцовых органаў ня ўмешваліся ў опэрацыйную дзейнасьць крэдытных-коопэратываў і не рабілі ніякага ўплыву адносна выдач пазычак.

5) Акруговай Пракуратуры сачыць за выкананьнем мясцовымі органамі дырэктыў гэтага абежніка і ўсіх вінаваўцаў у нявыкананьні прыцягваць да адказнасьці.

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі БССР **Нямытых.**

Народны Камісар Унутраных Спраў БССР **Сташэўскі.**

---

## Абежнік Вярхоўнага Суду Беларускай ССР

### ў разьвіцьцё п. „і“ арт. 171 Грамадзянскага Кодэксу.

*Усім Акруговым і Народным Судом Беларускай Рэспублікі.*

У сілу п. „і“ арт. 171 Гр. Кодэксу, прынятага ЦВК і СНК БССР за 16-га студзеня 1925 г., дапускаецца высяленьне жыльцоў пры неабходнасьці правядзеньня грунтоўнага рамонту займаемых памяшканьняў.

З перагляду Верхоўным Судом у парадку нагляду грамадзянскіх спраў аб высяленьні відаць, што шмат якія паасобныя домаўладальнікі, а іншы раз і жылтаварыствы, робячы высяленьне, або зусім ня робяць рамонту, або зацягваюць на неазначаны час з мэтай пазбавіць выселеных данага ім тым-жа законам права ўзваротнага ўсяленьня.

На падставе гэтага, Вярхоўны Суд БССР растлумачвае:

1) што пры пастанове рашэньняў аб высяленьні на падставе п. „і“ арт. 171 Гр. Кодэксу належыць устанавіць тэрмін, неабходны для правядзеньня рамонту, з выхадам каторага павінна пасьледаваць прадугледжанае гэтым артыкулам узваротнае ўсяленьне, хоць-бы рамонт і ня быў зроблен, пры чым тэрмін пры адсутнічаньні згоды старон устанаўляецца па погляду суду і пры тым самы мінімальны, апраўдна неабходны для тэрміновага правядзеньня рамонтных работ;

2) што пры вынясеньні гэтых рашэньняў неабходна асабліва дакладна праверыць сапраўдную патрабуемасьць дому ў грунтоўным рамонце, правядзеньне каторага патрабуе абавязковага вызваленьня памяшканьня і немажлівасьці прадставіць па згодзе другога часовага памяшканьня высяляемаму ў тым-жа дамаўладаньні;

3) у выпадку, калі ў пасьледку будзе ўстаноўлена, што рамонт ня быў зроблеальны затым, як-бы з прычыны рамонту жылтаварыства, домаўладальнік, ці арандатар імкнуліся выключн давысяленьня не пажаданага ім жыльца, апошнія адказны ў парадку адпаведных артыкулаў Грамадзянскага або нават Крымінальнага Кодэксу.

Старшыня Верхоўнага Суду БССР **Варашылаў.**

24 лістапада 1926 г.
№ В. 212. Ц. 34.
г. Менск.

---

## Абежнік Вярхоўнага Суду Беларускай ССР

### аб парадку прыёму і накіраваньня касацыйных скаргаў па грамадзянскіх справах.

*Усім Округовым Судом Беларускае Рэспублікі.*

З падаваемых у Верхоўнага Суд грамадзянскіх спраў з касацыйнымі скаргамі на рашэньне Акрсудоў відаць адсутнасьцю зьвестак аб разьмерах спааналых па справе збораў, невыкананьнэ некаторымі Акрсудамі патрабаваньняў аб прылажэньні да касацыйных скаргаў зьнятых на машынцы копій рашэньняў або пастаноў, на каторыя прыносяцца скаргі, а таксама адсутнасьць зьвестак аб уручэньні копій скаргі другой старане.

Прапануецца прыняць да няўхільнага выкананьня ніжэйнаступнае:

1) пры прыняцьці касацыйных скаргаў, адзначваць на іх абскарджваемую суму, а пры адсылцы спраў з касацыйнымі скаргамі ў Вярхоўны Суд—прадстаўляць дакладную спраўку (разрахунак) за подпісам адказнай асобы з паказаньнем усіх падстаў спагнаньня тэй ці іншай сумы збораў.

2) справы з касацыйнымі скаргамі на рашэньне падаваць ў Вярхоўны Суд не раней, як будуць атрыманы Акрсудамі і зроблены адпаведныя ў тым адзнакі ў справе,—зьвесткі аб часе ўручэньня копіі касацыйнай скаргі і ўсіх дадаткаў да яе—праціўнай старане, а ў выпадку няўручэньня іх па паказанаму ў справе адрасу належачай старане—адзнакі ў справе аб прычынах няўручэньня;

3) кожны раз пры прадстаўленьні з скаргамі спраў прыкладваць выразна зьнятыя на пішучай машынцы копій рашэньняў або пастаноў, на каторыя прынесены скаргі.

Старшыня Вярхоўнага Суду БССР **Варашылаў.**

24 лістапада 1926 г.
№ в 278. Ц. 35. г. Менск.



# Ад рэдакцыйнай Калегіі

Па некаторым прычынам выдаць 1-ы нумар часопісі ў сьнежні было немагчыма. Рэдакцыйная Калегія пастанавіла выдаць яго ў студзені і з тае прычыны, што набралася многа матар'ялу, выдаць у двайным разьмеры.

---

Рэдакцыйная Калегія зьвяртаецца да таварышаў-падпішчыкаў часопісі з просьбай выказацца па наступных пытаньнях:

1) Разьдзелы 1-ага нумару часопісі;

2) Недахваты і вартасьці яе;

3) Якія пытаньні пажадана высьвятляць на старонках часопісі ў будучым;

4) Якія разьдзелы скараціць і якія пашырыць.

---

**Падрыхтоўваецца да выпуску 2-гі нумар часопісі, у якім апроч разьдзелаў зьмешчаных у першым нумары, будзе зьмешчан агляд законадаўства Саюзу ССР і БССР з 1-ага кастрычніка 1926 г. і бібліографія.**

---

Адказны Рэдактар: **Рэдакцыйная Калегія.**

# ПАМЫЛКІ ДРУКУ.

| Старонка | Радок | Надрукована | Трэба чытаць |
|---|---|---|---|
| 7 | 38 зьверху | с различными | с различием |
| 8 | 14 „ | детально | детальна |
| 9 | 16 „ | чем Окрсудом | чем с Окрсудом |
| — | 28 „ | по вступлению | на вступление |
| 23 | 2 зьнізу | свае судовыя рашэньні і прысуды ў | сваімі рашэньнямі і прысудамі |
| — | 13 „ | расейскія | расейскіх |
| — | 16 „ | прадстаўнікоў | працаўнікоў |
| — | 23 „ | гладжэния | гледжаньня |
| 25 | 16 зьверху | „чэк“ | „чек“ |
| — | 21 „ | што ў зазначаных | што і ў зазначаных |
| — | 25 „ | тэрмінаў з пункту | тэрмінаў, а з пункту |
| 30 | 21 зьнізу | протэст | протест |
| 46 | | Суд Вітебску | Суд Віцебску |



